


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

11 ЛЮТАГА 2000г. № 6/4038 КОШТ 65 РУБ.

## ІМГНЕННЕ СВЕТЛАЕ НА НЕБАСХІЛЕ

***Мікола КУПРЭЕЎ: "А найбольш мяне ўразіла тое, што сваяціцкія дзетдомаўцы гаварылі чыста па-беларуску. Нават настаўнікі былі змушаны гаварыць з імі, з дзецьмі, па-іхняму, на іх роднай мове. Але — то былі дзеці канца пяцідзесятых, пачатку шасцідзесятых гадоў. Многія з іх сталі пасля настаўнікамі роднай мовы. На жаль, па камандзе зверху, пазней яны перасталі гаварыць (і думаць) па-беларуску. Яны перасталі быць тымі дзетдомаўцамі... Вось у такім ракурсе і я — дзетдомавец. І я не хачу ім перастаць быць".***

**5**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

***Віктара ВАБІШЧЭВІЧА і Алены ЯСКЕВІЧ***

**8**

## "БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНЯРЫ" ПРЫЗНАЮЦЦА...

***Алег КАЗЛОВІЧ: "Для ўсіх нас Беларусь — гэта Радзіма. Дзе б мы ні былі, што б ні спявалі, у нас заўсёды адчуваецца яе дух, энергетыка і, безумоўна, любоў да зямлі, якая нас выгадавала".***

**10—11**

## БОН ПАДЧАС ПЯРЭБАРАЎ

***Нататкі Галіны КАРЖАНЕЎСКАЙ***

**13—15**

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц —250 рублёў, на квартал — 750 рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — 760 рублёў, на квартал — 2 тысячы 280 рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**

*16 лютага народнаму пісьменніку Беларусі Івану НАВУМЕНКУ спаўняецца 75 гадоў. Матэрыялы, прысвечаныя юбілею Івана Якаўлевіча, чытайце на стар. 6—7, 9.*



# КОЛА ДЗЁН

***Яшчэ толькі сярэдзіна лютага, а на вуліцы амаль што вясна. Праўда, пакуль што ў прыродзе, а не на тварах людзей, але, думаецца, вясна ў свой час возьме сваё, як заўсёды.***

***Чым адыходзячы тыдзень быў адметны? Здаецца, людзі ўжо да ўсяго прывыклі і іх нічым не здзівіш. У кватэрах не мерзнем, не галадаем. Да ўсяго, Расія гатова прымяніць ядзерную зброю ў выпадку, калі на нас будзе ажыццёўлены напад з боку недружалюбнай дзяржавы — пра гэта ўвечары ў мінулую суботу заявіў Прэзідэнт Беларусі, Старшыня Вышэйшага Дзяржаўнага Савета Саюза Беларусі і Расіі Аляксандр Лукашэнка. Кіраўнік дзяржавы даў зразумець, што адпаведная дамова паміж вышэйшымі кіраўнікамі краін, якіх звязваюць саюзніцкія адносіны, была дасягнута раней. Словам, людзям застаецца толькі добра працаваць, каб добра жыць.***

### УСПАМІН ТЫДНЯ

У гісторыю адышоў 1999 год. Як мы яго пражылі? Кожны па-свойму. Аднак, згодна са звесткамі Міністэрства статыстыкі і аналізу, у рублёвым пераліку зарплата вырасла за год у 4,3 раза (з 8 525 189 рублёў у снежні 1998 года да 36 893 544 рублёў у снежні 1999 года).

У той жа час рыначны курс долара павялічыўся ў 3,1 раза, а спажывецкія цэны — у 3,5 раза. Памесячнае змяненне доларавага эквіваленту сярэдняй налічанай зарплаты рабочых і служачых выглядае так: снежань 1998 года — 33, студзень 1999 года — 32, люты — 34, сакавік — 35, красавік — 33, май — 42, чэрвень — 46, ліпень — 48, жнівень і верасень — 46, кастрычнік — 41, лістапад — 42, снежань — 46. Гледзячы на гэтыя лічбы, нехта скажа: "Дык няблага жылі". Але...

### СТАРТ ТЫДНЯ

Праект Выбарчага кодэкса ўжо адобраны абедзвюма палатамі Нацыянальнага сходу. Напярэдадні яго падпісання Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэферэндумаў Лідзія Ярмошына сказала: "Канчатковы тэрмін правядзення выбараў у Беларусі прыпадае на 27 кастрычніка гэтага года. Але гэта будны дзень, таму выбары могуць быць прызначаны на 22 ці 15 кастрычніка. Такім чынам, указ прэзідэнта аб аб'яўленні выбараў з'явіцца адпаведна да 22 ці да 15 ліпеня гэтага года. З гэтага моманту стартуе паўнацэнная выбарчая кампанія". Так што — усе на выбары!

### НАПАМІН ТЫДНЯ

Прайшло ўжо больш васьмі гадоў з таго часу, як развалiўся Савецкі Саюз, але, нягледзячы на гэта, многія грамадзяне Беларусі жывуць з пашпартам краіны, якой не існуе ў свеце. Аднак тэрмін дзеяння савецкага пашпарта на тэрыторыі Беларусі неабмежаваны ніякімі прававымі дакументамі. Акрамя ўсяго, у нас зараз дзейнічаюць яшчэ два "віды" нацыянальных пашпартоў — узору 1993 года з выявай Пагоні на вокладцы і пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь узору 1996 года. За мінулы год было пашпартызавана больш 1 мільёна 100 тысяч грамадзян. Тыя, хто яшчэ не атрымаў пашпарт узору 1996 года, могуць гэта зрабіць у любы час. І ўсё ж варта памятаць, што тэрмін дзеяння савецкага пашпарта для замежных паездак заканчваецца 31 снежня 2001 года.

### ЖАДАННЕ ТЫДНЯ

Не першы год ідуць размовы пра беларускі марскі флот. Аднак у большасці размовы застаюцца размовамі. Па звестках Міністэрства транспарту і камунікацыі, у 1994—1996 гадах на тэрыторыі Беларусі жыло каля 10 тысяч маракоў гандлёвага і рыбалоўнага флоту. Пры Савецкім Саюзе яны ўсе мелі працу, а цяпер — толькі лічаныя адзінкі. Два гады назад Міністэрства транспарту і камунікацый, якое курыруе "марское пытанне", распрацавала беларускае нацыянальнае пасведчанне марака. На сённяшні дзень яго прызналі ўсе краіны Еўропы, акрамя трох: Партугаліі, Турцыі і Італіі. Нягледзячы на гэта для нашых маракоў ёсць выбар дзе працаваць. І ўсё ж хацелася, каб нашы маракі служылі ў нашым флоце...

### ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў сёлета не вернецца з Фінляндыі ў Беларусь, а пераедзе на год у Германію, куды яго запрасіў тамтэйшы ПЭН-цэнтр.

### ПРАБЛЕМЫ ТЫДНЯ

Чаго толькі праз нашу краіну не вязуць нашы суседзі! Да гарэлкі і тытуню мы даўно прывыклі. А вось да вярблюдаў, здаецца, зусім не.

Аднак ужо другі тыдзень на Брэсцкім пагранічным экспартна-імпартным пункце знаходзяцца чатыры вярблюды, якія трапілі сюды не па сваёй волі. Сваё падарожжа гэтыя "караблі пустыні" пачалі яшчэ ў мінулым годзе. Адна з чэшскіх фірмаў вырашыла паднесці ў падарунак гэтых экзатычных жывёлін мясцоваму заапарку. Яны былі куплены ў Казахстане і пад самы Новы год прыбылі на беларуска-польскую мяжу. Больш чым тыдзень вярблюды знаходзіліся тут, паколькі ў экспедытара не было неабходных дакументаў на транзіт па тэрыторыі Польшчы. А калі даведка з'явілася, то праблемы з жывым грузам узніклі на чэшскай мяжы і вярблюдаў адправілі ў Беларусь. Цяпер "караблі пустыні" глядзяць на беларускі снег і чакаюць дазволу на далейшае "плаванне" па свеце...

### АДНАЎЛЕННЕ ТЫДНЯ

Здавалася б, што ў час поўнай электрыфікацыі і газафікацыі, такі від паліва, як брыкет, адышоў разам з развітым сацыялізмам у небыццё, але... Заводы працуюць, і вытворчасць брыкету зраўнялася па аб'ёмах з рэалізацыяй. Літаральна за тыдзень па складах райпалівазбыту запасы брыкету зменшыліся з 15,9 да 14,6 тысячы тон. А напярэдадзе ў нас амаль два месяцы зімы. І ўсё ж перазімуем, бо не першы год жывём і, калі спатрэбіцца, наступным летам, як нашы дзяды, па балотах накапаем торфу. А пакуль што ў друку з'явілася інфармацыя, што рэалізацыя брыкету насельніцтву, якая была прыпынена, аднавілася...

### ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

У кожнага свой лёс. І яго не перапішаш. Добра, калі чалавеку наканавана толькі ўсё светлае і да ўсяго яшчэ і смерць лёгкая.

А бывае... Трагічна закончылася жыццё аднаго з жыхароў вёскі Мокравічы Бяльніцкага раёна, які раніцай пайшоў у хлеў падкінуць сена свайму каню. Пайшоў і не вярнуўся. Жонка ўстрывожылася і пайшла глядзець, што здарылася. І знайшла мёртвага мужа, які ляжаў у хляве з пасінелым ад удараў тварам і са слядамі крывавых укусаў.

А пакусаў гаспадара конь, якога той узяў пяць гадоў назад яшчэ жарабём.



БРАВА!

# Нестандартна!

Зіма выдалася ўраджайнай для беларускіх аматараў джаза. Не паспелі выйсці ў прэсе ўсе водгукі на міжнародны фестываль "Мінск-2000", як у сталічнай філармоніі адбылася сустрэча з выдатным вакалістам з Польшчы і яго квінтэтам.

Марэк Балаты паводле апытанняў часопіса Міжнароднай джазавай федэрацыі "Джаз форум" прызнаны лепшым вакалістам Польшчы з 1990 па 1999 год. Аднойчы на міжнародным джазавым фестывалі ён пазнаёміўся з нашай "Камератай" і ўжо даўно збіраўся прыехаць у Мінск, ды ўсё неяк не атрымлівалася. І вось — візіт адбыўся. Выступленне М. Балаты было арганізавана Польскім інстытутам у Мінску і Беларускай дзяржаўнай філармоніяй.

Публіка атрымала вялікае задавальненне. Балаты — дзівосны музыкант, спявак — даказаў, што няма састарэлых відаў джазавага вакалу, калі іх творча інтэрпрэтаваць.



У канцэрце гучалі джазавыя стандарты, мелодыі Ф. Шапэна, фальклор і папулярныя польскія песенькі, да непазнавальнасці бліскуча інтэрпрэтаваныя майстрам. Інструментальны квінтэт таксама быў на вышыні і не раз выклікаў бурныя апладысменты залы. Нават традыцыйны "скэт" гучаў у Марэка Балаты нестандартна. Адзінае шкадаванне: канцэрт быў кароткі...

**А. ДЗМІТРЫЕЎ**

*Фота аўтара*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Клопатам пра ўшанаванне пісьменнікаў-юбіляраў на іх малой радзіме былі прасякнуты лісты, якія накіраваў Саюз беларускіх пісьменнікаў у адрас Мінскага гарадскога і абласных выканаўчых камітэтаў. Прыемна, што яны знайшлі ўжо водгук у Мінгарвыканкаме і Брэсцкім аблвыканкаме. У сваіх адказах, якія прыйшлі ў саюз, адказныя асобы паведамілі, што ў адпаведнасці з просьбай СБП у школах, пазашкольных установах, бібліятэках сталіцы будуць арганізаваны выставы кніг, фотаздымкаў, праведзены літаратурныя вечары, прысвечаныя творчасці Э. Скобелева, К. Тарасава, В. Тараса, Р. Лапушына, С. Клімковіч.

Брэсцкі аблвыканкам распрацаваў шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных 50-годдзю М. Трафімчука і 65-годдзю А. Клышкі. У прыватнасці, на бацькоўскіх сходах у навучальных установах пройдзе шэраг гутарак "А. Клышка — аўтар зборніка "Верасок" і буквара для беларускіх школ", будуць арганізаваны святы для першакласнікаў, літаратурныя гасцёўні, вечарыны і ранішнікі, прысвечаныя юбілею А. Клышкі, а таксама сустрэчы з М. Трафімчуком, кніжныя выставы і г.д.

Свае планы па ўшанаванні юбілеяў беларускіх пісьменнікаў павінны прадставіць таксама Віцебскі, Гродзенскі, Гомельскі, Магілёўскі выканаўчыя камітэты.

●

Абараняць маральны клімат грамадства, садзейнічаць прапагандзе беларускай літаратуры, пашырэнню ролі мастацкага слова — такія важнейшыя пытанні, якія закраналіся на сустрэчы кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў з намеснікамі старшыні Дзяржтэлерадыё Беларусі У. Купрыенкам і У. Ядранцавым. Было выказана нямала заўваг і прапаноў, накіраваных на павышэнне ўзаемаразумення, на актывізацыю творчага супрацоўніцтва.

З боку пісьменніцкай арганізацыі ў сустрэчы прынялі ўдзел Вольга Іпатава, Навум Гальпяровіч, Алесь Пісьмянкоў, Яўген Каршукоў, Алесь Карлюкевіч, з боку Дзяржтэлерадыё — разам з намеснікамі былі кіраўнікі тэлепраграм.

●

Поўным ходам ідзе падрыхтоўка да прыёму дэлегацыі Саюза славацкіх пісьменнікаў на чале са старшынёй Саюза Янам Тужынскім. Візіт пройдзе ў рамках дамовы паміж пісьменніцкімі суполкамі абедзвюх краін, якая будзе ўрачыста падпісана ў Мінску. У праекце дамовы прадугледжана выданне кароткай анталогіі найбольш значных дасягненняў сучаснай беларускай літаратуры. І наадварот — Саюз славацкіх пісьменнікаў бярэ на сябе абавязак падрыхтаваць анталогію сучасных славацкіх літаратурных твораў.

●

Рэалізацыяй праграмы супрацоўніцтва з літаратурнымі аб'яднаннямі краіны стала сустрэча ў Рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў. Сюды на сустрэчу з удзельнікамі літаратурнага аб'яднання аматараў паэзіі прыйшлі намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Навум Гальпяровіч і літкансультант, старшыня ваенна-шэфскай камісіі Яўген Каршукоў. Госці прынялі ўдзел у абмеркаванні твораў удзельнікаў аб'яднання Івана Вялічкі, Альберта Васільева, Маі Ярмоленкі, Вольгі Манкевіч, Мікалая Палякова і іншых.

**Н. К.**



ДРУК

# І ўсё ж дзесяць — шмат!

Дзесяць нумароў — гэта шмат для часопіса ці мала? Бадай, большасць нашых чытачоў адкажуць адназначна: "Канечне, мала!" І іх меркаванне, як быццам, наўрад ці можна аспрэчыць. Але, калі пры гэтым мець на ўвазе перыядычнае выданне, якое фінансуецца з дзяржаўнага бюджэту і, нягледзячы на ўсе цяжкасці, выходзіць больш-менш рэгулярна. У той жа час дзесяць нумароў для часопіса недзяржаўнага — шмат.

А такі юбілей напярэдадні 2000-га года, адзначыў літаратурна-гістарычны і грамадска-культурны часопіс "Палессе", які выдаецца ў Гомелі з 1996 года. Заснавальнікам выдання і яго нязменным галоўным рэдактарам з'яўляецца журналіст Рыгор Андрэявец, чалавек вельмі ўлюбёны ў свой край, руплівы працаўнік на ніве беларушчыны, на ніве Адраджэння.

Колькі трэба энергіі, няўрымслівасці, каб знайсці сродкі не проста на выданне, а на аб'ёмны часопіс?! Рыгор Мікалаевіч знаходзіць. І ў Гомелі, дзе жыве. І ў іншых абласных цэнтрах. Ды і ў Мінск часта наведваецца. Завітвае да кіраўнікоў розных прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый. Не проста грошы просіць, а і сам ідзе насустрач — глядзіш, праз нейкі час на старонках "Палесся" з'явіцца матэрыял пра тое ж прадпрыемства, установу, арганізацыю. І не рэклама ў яе традыцыйным разуменні, а матэрыял, у якім ёсць роздум, узнімаюцца праблемы.

Дарэчы, публіцыстычныя матэрыялы — таксама свайго роду твар "Палесся". І тыя, што тычацца сучаснасці, і якія закранаюць розныя моманты нацыянальнай даўніны. Найперш, канечне, беларускай. Ды не толькі... "Палессе", як паспелі заўважыць сталыя яго чытачы, выданне рэгіянальнага характару. І аўтары друкуюцца не толькі беларускія, а і рускія, украінскія. Прытым нярэдка на сваёй роднай мове. Пераважае беларускае, але можна напаткаць у "Палессі" і рускую, і нават украінскую. Ніхто з трох братніх народаў, што жывуць на Палессі, тым самым не пакрыўджаны.

Але, думаецца, не лішне падрабязней згадаць пра дзесяты, юбілейны нумар "Палесся". Ён адметны тым, што знаёміць з літаратурнымі, культурнымі традыцыямі Арлоўшчыны, што была радзімай для І. Тургенева, А. Фета, І. Буніна, М. Ляскова і іншых выдатных творцаў. А Арлоўшчыну "Палессе" запрасіла да сябе ў госці невыпадкова: Гомельшчына мяжуе з былой Арлоўскай губерняй. Пра гэта, дарэчы, зазначае ў артыкуле "На радзіме рускага слова", якім адкрываецца нумар, Ю. Фатнеў.

Якая яна, сённяшняя літаратурная Арлоўшчына, шмат у чым можна атрымаць уяўленне, пазнаёміўшыся з вершамі В. Дроннікава, Г. Папова, навеламі І. Рыжова. А артыкулы В. Катанава "Геній чыстай прыгажосці", "Тургенеў", "Афанасій Фет", "Ляскоў" запрашаюць зазірнуць у мінулае. Першы з іх пра Анну Керн, якая родам з Арла. Багатым на матэрыялы атрымаўся раздзел "Беларусы ў Расіі" — гэта інтэрв'ю з выдатнымі беларусамі, якія цяпер працуюць у суседняй краіне, і вельмі змястоўны агляд артыкул "З краю роднага, роднага дому..." Р. Андрэяўца.

Знайшлося і месца іншым матэрыялам — аповесці Л. Багданавай "Сунівэ", нарысу Ю. Фатнева "Усё, як у людзей", вершам І. Мядзведзева і М. Вінграноўскага, гісторыка-краязнаўчаму артыкулу А. Рогалева "Хлепень — Жлобін: ад вытокаў да новага часу".

Цяпер у Р. Андрэяўца — новыя задумы. Ён упэўнены, што часопіс абавязкова будзе жыць, і неўзабаве чытачы сустрэнуцца з новымі нумарамі "Палесся". І някай выданне не прытырмліваецца строгай перыядычнасці, гэта не галоўнае. Галоўнае, што "Палессе" заняло сваю нішу.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ВІНШУЕМ!

# Чын відачынства

Самому тэатру няма яшчэ і трыццаці. А ён у гэтым тэатры — ужо два дзесяткі гадоў. За гэты час новае пакаленне гледачоў узгадавалася: яно і не памятае-не ўяўляе спектаклі Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі (цяпер Дзяржаўнага музычнага тэатра) без Арнольда Ранцанца. Хіба толькі ганаровае званне "Заслужаны артыст УССР" было падказкай для недасведчаных: пачынаў улюбёнец публікі не ў Мінску, і пачатак яго сцэнічнага жыцця быў яркі, і прызнанне творчага таленту — раннім. Так што ў мастацкае асяроддзе нашай сталіцы Арнольд Ранцанц уваходзіў маладым чалавекам, але спрактыкаваным прафесіяналам.

Талент характарнага акцёра, інтанацыйная выразнасць пеўчага голасу, уменне падтрымліваць эмацыйны кантакт з публікай — усё гэта сталася зарукай разнастайнай і плённай працы. Нават перабіраючы сціплы рэдакцыйны фотаархіў, які не адлюстроўвае і палову сыграных Ранцанцам роляў, дзіву даешся: сярод камедыйных масак — абрысы лірычнага героя, дэманстрацыйны гратэск адцяняе праява драматычнага перажывання... "Станоўчы" Сцяпан у "Старых дамах", цынічны стары Дулітл у "Маёй цудоўнай лэдзі", недарэка Зупан у "Марыцы", эксцэнтрычная матухна Агата ў "Viva la Mamma!" І мноства іншых стракатых персанажаў ды вобразаў, увасобленых А. Ранцанцам у спектаклях розных гадоў: "Вяселле ў Малінаўцы", "Біндзюжнік і кароль", "Ноч у Венецыі", "Халопка", "Дарагая Памела", "Севастопальскі вальс"...

Дар творчага пераўвасаблення, чын артыста, безумоўна, важней за ганаровыя афіцыйныя адзнакі. Ды ўсё ж, даведаўшыся пра наданне Арнольду Ранцанцу звання заслужанага артыста Беларусі, мы скарысталі гэта як нагоду для добрых слоў. А да іх абралі здымак з музычна-тэатральнай імпрэзы, на якім артыст падаецца нібыта зусім звычайным чалавекам. Але зараз ён узнімецца на сцэну і прадоўжыць цуд відачынства...



**С. Б.**

*Фота Віт. АМІНАВА*

# Жывапісная стыхія Касцючэнкі

Выставу Васіля Касцючэнкі, якая адкрылася ў Музеі сучаснага мастацтва, можна беспамылкова назваць з'яваю. Васіль Касцючэнка адзін з тых беларускіх мастакоў сярэдняга пакалення, які, пазбегнуўшы жорсткай жывапіснай акадэмічнасці, тым не менш не адмаўляецца ад фармальных пошукаў. Яго жывапісныя палотны не назавеш чыстай абстракцыяй, яны сюжэтныя, акрамя каляровых плям, карціны ў кампазіцыі маюць рэальныя асобы і рэчы.

Выпускнік мастацка-графічнага аддзялення Віцебскага педінстытута В. Касцючэнка, здаецца мне, фарміраваў сваё мастацкае бачанне на аснове еўрапейскіх здабыткаў і магчымасцей жывапіснага каларызму. Мастак насычае фарбамі кожны сантыметр халста, пакідаючы дамінуючым адзіны колер. Асабліва даспадобы Васілю чырвоны, які можа бясконца вар'іравацца ў яго творах у розных танальнасцях, настроях і сюжэтах. Мастак можа акрэсліць ім абстрагаваную кампазіцыю ("Залаты прамень"), і жаночую постаць ("Белая на чырвоным"), намаляваць прыцемкі ("Прыцемкі чырвонага дня", "Чырвоны вечар"), і дзень ("Спёка"), занатаваць вобраз Траецкага прадмесця ("Горад"). Але і халаднаватай гаме, у пастэльным гучанні блакітных, зялёных, ружовых фарбаў ён стварае выдатныя настраёвыя партрэты, пейзажы, святочныя цыклы.



І пры гэтым мастак намагаецца затрымаць глядацкую ўвагу незавершанасцю, неадназначнасцю сваіх работ, пакінуць імпульсіўную недасказанасць замест акадэмічнай яснасці. І гэта дасягаецца адмаўленнем ад рацыянальнай і вывеpанай пабудовы палатна, нечаканым спалучэннем дэкаратыўнай кідкасці і жывой насычанасці колеравых плям, сапраўднай жывапіснасцю.



Магчыма, таму Васіля Касцючэнку так шануюць яго сябры і вучні ў Мінскай мастацкай вучэльні імя А. Ахрэмчыка. А выкладанне і статус "мастака сёмага (выхаднога) дня", як пажартаваў дырэктар вучэльні мастак М. Басалыга, не перашкаджае Васілю заставацца дзейсным і цікавым творцам.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На здымках: "Белая на чырвоным"; мастак В. Касцючэнка.*

*Фота М. ПРУПАСА*

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# Адкрыцці для Швейцарыі

Ёсць у акіяне жыцця унікальная своеадметная з'ява: стасункі Беларусі ды кантона Ааргау (Швейцарыя) у галіне культуры і адукацыі. Гэтае партнёрства афіцыйна існуе з 1991 года. І адным з прыярытэтных яго напрамкаў зрабілася супрацоўніцтва ў музычнай творчасці, якое сёння ўжо немажліва ўявіць без удзелу знанага беларускага Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам маэстра Уладзіміра Байдава. Рэалізацыі нядаўняга беларуска-швейцарскага праекта і прысвячалася імпрэза ансамбля, праведзеная 8 лютага ў Зале камернай музыкі сталічнай філармоніі.

Гэта быў канцэрт-прэзентацыя кампактдыска "Адкрыцці з Беларусі", запісанага і выдадзенага ў Швейцарыі на сродкі, выдаткаваныя ўрадам кантона Ааргау. Дарэчы, дзякуючы такой падтрымцы "Класік-Авангард" змог не толькі выпусціць свой першы, на фірмовым узроўні зроблены, CD, але і паўдзельнічаць у восеньскай прэзентацыі, зладкаванай швейцарскімі партнёрамі. Яны, на жаль, прыехаць на ўрачыстасць у Мінск не змаглі, але даслалі цёплае віншаванне — цэлы ліст, які быў "агучаны" падчас канцэрта і ў якім запіс CD названы найвышэйшым дасягненнем партнёрства.

У той вечар, адпаведна святочнай падзеі, гучала нямала пранікнёных віншавальных слоў у выступленнях прадстаўніка Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Л. Бароўскага, часовага паверанага ў справах Беларусі ў Швейцарыі А. Гіро, кіраўніка адміністрацыі Швейцарскага консульства ў РБ сп. Казэры. Ён, дарэчы, зазначыў, што менавіта музыканты з'яўляюцца самымі актыўнымі праваднікамі беларускай культуры ў Швейцарыі.

Галоўнае, што да "Адкрыццяў з Беларусі", зробленых швейцарскімі меламанамі, спрычыніліся і мы. Нават ужо знаёмыя паводле ранейшых канцэртаў "Класік-Авангарда" творы ўражвалі прэм'ернай свежасцю — мабыць, з-за нюансаў аркестроўкі ды святочнага настрою выканаўцаў: "Экзатычная сюіта" У. Дзешавова, "Запрашэнне на пакаранне" В. Кузняцова... Публіка адкрывала для сябе маляўнічую і дасціпную "Танцавальную сюіту" А. Жыватава, акварэльна-вытанчаную "Раку жыцця" Д. Смірнова... Дзівілася на творчую рознабаковасць і працавітасць маэстра Байдава; насалоджвалася высокапрафесійным граннем яго ансамбля-аркестра, роўнага якому сёння ў нашай краіне няма.

Канцэрт прайшоў з аншлагам. І — з "дэсертам": звыш праграмы прагучаў вынаходлівы, напоўнены гумарам, "Марш" А. Шонберга.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

АБСЯГІ

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Дыплом — за камедыю

Як "ЛіМ" паведамляў ужо, у Слуцку на пачатку года праходзіў рэспубліканскі фестываль аматарскіх тэатраў "Тэатральныя скрыжаванні". Ён сабраў 12 калектываў з Мінска, усіх абласцей Беларусі, а таксама з Украіны і Літвы. Магілёўшчыну прадстаўляў народны тэатр гарадскога Цэнтра культуры і адпачынку. Самадзейныя артысты прывезлі ў Слуцк спектакль "Камедыя пра нешчаслівага селяніна, яго жонку Маланку, жыда Давіда і чорта, які страціў сэнс да існавання" паводле п'есы У. Рудава ў пастаноўцы рэжысёра тэатра, заслужанага дзеяча культуры РБ Валянціна Ермаловіча. За высокі мастацкі ўзровень пастаноўкі магілёўскія тэатралы атрымалі дыплом першай ступені, а акцёр М. Бацэвіч — дыплом і памятны падарунак за лепшае выкананне мужчынскай ролі.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Пра буквар і яго аўтара

Найноўшыя метады навучання і выхавання вучняў пачатковых класаў абмяркоўваліся на нядаўняй нарадзе намеснікаў дырэктараў школ Маскоўскага раёна Брэста. Вялікая ўвага была ўдзелена буквару, складзенаму летась Анатолем Клышкам. "Зместам і жывой народнай мовай — гэта сапраўды нацыянальны буквар" — так вызначылі педагогі галоўную асаблівасць першакнігі для дзяцей падручніка.

З павагаю гаварылася на нарадзе і пра самога аўтара-земляка (нарадзіўся ў в. Данейкі Баранавіцкага раёна), які неўзабаве адзначыць свой 65-гадовы юбілей. Даклад пра жыццёвы і творчы шлях Анатоля Канстанцінавіча Клышкі зрабіў выкладчык мясцовага дзяржуніверсітэта, пісьменнік Мікола Сянкевіч.

## "Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры"

Назва-дэвіз рэспубліканскага конкурсу, вынікі якога былі нядаўна падведзены, дакладна адпавядае працы многіх бібліятэк Брэстчыны. У іх сабраны багатыя матэрыялы з гісторыі роднага краю, вялікая ўвага надаецца прапагандзе твораў пісьменнікаў-землякоў. І нездарма калектывы берасцейскіх бібліятэк штогод адзначаюцца прэміямі. Чарговы рэспубліканскі конкурс не стаў выключэннем. Сярод яго пераможцаў — Маларыцкая і Пінская раённыя бібліятэкі, а таксама загадчыца чытальнай залы Пінскай гарадской дзіцячай бібліятэкі Ірына Чараўко.

Варта зазначыць, што цэлы шэраг названых устаноў носіць імёны вядомых паэтаў і празаікаў, што ўнеслі немалы ўклад у культуру краю і ўсёй Беларусі, — Валянціна Таўлая, Міколы Засіма, Піліпа Пестрака, Васіля Праскурава, Яўгеніі Янішчыц...

## У тэатры — толькі школьнікі

Тэатр-студыя "Раёк" абласнога Цэнтра маладзёжнай творчасці на рэспубліканскім фестывалі "Тэатральныя скрыжаванні" быў адзіным калектывам, які цалкам складаецца са школьнікаў. Тым не менш майстэрства юных артыстаў было адзначана высока: ім прысуджана другое месца, а дзевяцікласніца Вольга Залеўская атрымала прыз за лепшае выкананне жаночай ролі ў спектаклі "Каханне дона Перлімпліна" паводле п'есы Г. Лоркі. У гэтым вялікая заслуга мастацкага кіраўніка тэатра-студыі Тацяны Зарэмбы і рэжысёра спектакля Цімафея Ільеўскага. Тэатр школьнікаў атрымаў шмат запрашэнняў на гастролі.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Прысвечана Мележу

Івану Паўлавічу Мележу восьмага лютага наступнага года споўнілася б 80... Газета "Гомельская праўда" і абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў аб'явілі конкурс, прысвечаны юбілею майстра, на лепшы літаратурны твор — апавяданне, нарыс, верш. Да конкурсу запрашаюцца як прафесійныя пісьменнікі, так і пачынаючыя аўтары. Лепшыя творы будуць змешчаны ў "Гомельскай праўдзе", а вынікі конкурсу плануецца падвесці напярэдадні юбілею Мележа.

## Спявае народная капэла

Народная капэла абласнога Дома мастацтваў і тэхнічнай творчасці адзначыла сваё 25-годдзе. Мастацкім кіраўніком і дырыжорам калектыву з'яўляецца заслужаны работнік культуры РБ Уладзімір Курылін. Да юбілею артысты падрыхтавалі новую праграму духоўнай музыкі. Канцэрт адбыўся ў Доме настаўнікаў.

## Выстава маладых

У карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў пачала працаваць выстава маладых мастакоў Гомельшчыны. На ёй прадстаўлены творы самых розных жанраў. Экспазіцыя сведчыць аб вялікім творчым патэнцыяле маладых талентаў. Як адзначыў на адкрыцці выставы старшыня абласной арганізацыі СМ Анатоль Отчык, пры яе праўленні неўзабаве будзе створана маладзёжная арганізацыя жывапісцаў, графікаў, скульптараў.

## На сцэне — "Віртуозы Масквы"

З вялікім поспехам прайшоў у Гомелі канцэрт "Праект 2000 года аркестра "Віртуозы Масквы". Яго ўдзельнікі — буйнейшыя музыканты свету, дыпламанты і лаўрэаты прэстыжных міжнародных конкурсаў. У іх выкананні прагучалі творы Моцарта, Вівальдзі, Гайдна...

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МІНШЧЫНА...*

## Ушанавалі паэта-земляка

У цэнтральнай бібліятэцы Мар'інай Горкі і мясцовым раённым краязнаўчым музеі адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння паэта-земляка Аркадзя Моркаўкі. Удзел у ёй бралі аматары мастацкага слова, навукоўцы. Прысутнічалі дачка, унучка і праўнучка Аркадзя Андрэевіча. Выступіў прафесар Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, краязнаўца Мікола Мішчанчук, які доўгі час вывучае лёс вядомага пісьменніка.

## "Экалогія і права"

У Мар'інай Горцы ў рамках раённай пашыранай калегіі камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя прайшла прэзентацыя першых двух нумароў новага часопіса "Экалогія і права". Выдаецца ён пры садзейнічанні камісіі амбасады ЗША ў Беларусі па развіцці дэмакратыі. Змест публікацый тлумачыцца назвай часопіса. Наклад — тысяча асобнікаў. Распаўсюджваецца часопіс пакуль па бібліятэках рэспублікі і па зацікаўленых арганізацыях.

**Галіна НОВІКАВА**

***Наіўна думаць, што ты можаш уведаць чалавека. Ты можаш толькі нешта ўведаць пра нейкага чалавека.***
***Яшчэ больш наіўна — спадзявацца, што сам чалавек АДКРЫЕЦЦА табе, як на споведзі, бо й на споведзі святару адкрываюць толькі магчыма ўвіднае, а не свой таемны ўнутраны свет. Можа, таму, што перад табою — святар, а не Бог. АДКРЫЕМСЯ ж адно толькі Госпаду, бо ТАМ не схаваем і не ўтоім сябе...***
***І ўсё ж мне здавалася, што я ведаў Міколу Купрэева — вядомага таленавітага літаратара і адзінокага, зболенага, па сутнасці, абязножанага чалавека...***
***Як бы не так. Зрэшты, пішу я пра яго даўно і многа. А вось што піша ён... Насмелюся вынесці яго ліст да мяне ад 15 лістапада 1999 года НА ЛЮДЗі, бо, як мне думаецца, у ім больш Купрэева-чалавека, чым Купрэева-літаратара ў нашай з ім, ніжэй апублікаванай, эпісталярнай гутарцы.***

*"...Нарэшце, я зноў у Пружанах. Але сёння ж — зноў! — еду ў Быцень (мястэчка ў Івацэвіцкім раёне, там нядаўна пахаваны М. Грынчык), дзе пустуе хата майго даўняга сябрука — былога журналіста, цяпер аператара газавай кацельні Міколы Рымача. Сам ён жыве ў Івацэвічах. А блукаю я ўжо месяц, таму што аддаў сваю кватэру зяцю маёй сястры (мужу маёй пляменніцы), які прыехаў сюды, у Пружаны, на сорак дзён — як студэнт-завочнік мясцовага сельгастэхнікума (інтэрната завочнікам не даюць, а ў мяне толькі адзін ложак).*

*У сястры, у Вялікай Гаці, я доўга быць не магу: надта ўпікае мяне за маё жыццё-быццё (а сястра, увогуле, мая добрая, але... доўга ў яе хаце быць не магу).*

*Заўчора званіла з Саюза пісьменнікаў Галіна Тацціяна Юр'еўна наконт дзяржаўнай стыпендыі на 2000 год — каб я напісаў заяву. Паслаў па факсу (з райгазеты ад Міколы Антанюкскага) заяву і нейкі пералік нечага. Зноў, адчуваю, нічога не будзе (як заўжды — аднасна мяне)...*

*Толькі што напісаў адказ на твае першае пытанне. Ну, і як мой адказ? Я лёгка пішу прозу і вершы, а такое — адказы! — ну, не магу. Не ў маім стылі. Нешта не тое. Але — што атрымалася. Без усякіх японцаў і французаў...*

*Пішы мне на Пружаны — вярнуся сюды 19 лістапада на два-тры дні ("зяць" паедзе на выхадныя дахаты, але сесія ў яго ўвогуле яшчэ два тыдні). Куды паеду з Быценя — не ведаю. Куды душа скажа. За вакном — зімна, ветрана, холадна... А на паўботах маіх маланкі "паляцелі". Як і ва ўсіх штанах. Не, каб, як пры Сталіне, усё было на гузіках. Навыдумлялі нейкіх "маланак"! А яно ж так: маланкі — раз, і няма... як жыцця...*

*Думаю наконт аповесці..."*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# Імгненне светлае на небасхіле

**— Ці помніш ты, Мікола, свае першыя спробы пяра? Адкуль ТОЕ было, на твой сённяшні погляд, — ад закладзенай бацькамі геннай прыроды (родавае) ці ад зачараванай неўразумеласці ГЭТАГА свету?**

— Можа, лепей казаць не пра першыя спробы пяра, а пра першыя вершаваныя радкі, якія складаліся ў душы — хай яны, тыя радкі, і не выліліся праз пяро на паперу. Дык вось: ТАГО пачатку свайго не помню. Але добра помню адно — мелодыю. Ды і як яе не помніць, калі яна са мной, ува мне заўжды — з усвядомленых дзён маленства па сёння. Мелодыя задуменна-самотная. Бо на душы вельмі рана сталася задуменна-самотна. І ціха. Была вайна. Але выбухаў, стрэлаў не помню. Адно — самотную цішыню. І ў гэтай цішыні — задуменная старая вярба над чорнай сажалкай у Вікове ля Дняпра, павольна і задуменна падаюць з неба ўніз і зноў падымаюцца ўгору крылы млына на ўзгорку сярод поля між Ямным і Доўскам, і ля млына на калодзе сядзіць і смаліць піпку мой дзед Навум і задуменна-самотна глядзіць далёка ў поле, і ў вачах яго ціха стаіць сляза. А задуменная маці палошча з кладкі ручнікі ў ручаіне, потым яна, самотная-самотная, стаіць у цёмным паліто́чыку, раніцай, на высокім ганку, потым кідаецца з яго і бяжыць па вікоўскай вуліцы туды, за сажалку, куды немцы павялі майго бацьку... І на журботным кладоўі — задуменна-самотныя людзі. І задуменна-самотныя немцы-палонныя на беразе Чорнага возера, што ля Старых Пяскоў. І задуменныя чорныя вочы дзяўчынкі-аднакласніцы... Так сталася, што ўва мне заўжды "стаіць" задуменна-самотная мелодыя. І калі я ў пятым ці ў шостым класе напісаў вершык, дзе былі такія радкі (пра Першамай):

***...Гэта свята людзей!***
***З песняй ідзе***
***Савецкі наш край!..*** —

атрымаў на гэты вершык адказ з "Піянера Беларусі". Адказ быў падпісаны так: "З прывітаннем Анатоль Астрэйка". Не помню канкрэтна што пісаў мне Астрэйка, але зразумеў: вершык слабы і надрукаваны не будзе. І я перастаў пісаць. Чаму? Тады, дванаццаці-трынаццацігадовы, я не разумеў — чаму. І толькі пазней даўмеўся, а дакладней — адчуў, што тыя "піянерскія" радкі, тыя клічнікі — гэта не мае, гэта не я. Я — задуменна-самотны, а там — бадзёрыя клічнікі. У дзесятым класе, у Івацэвіцкай рускай сярэдняй школе, я натрапіў на два тоўстыя, у сініх вокладках, тамы Аляксандра Блока і быў зачараваны ім — яго задуменна-самотнай мелодыяй, і ўва мне ціха і лёгка ўзышлі такія ўжо **мае** радкі:

***Белые лилии***
***Гонит волною —***
***Маленькие паруса.***
***Белые лебеди —***
***Тихой водою, —***
***Маленькие паруса...***

Я бачыў — гэта ўжо мае. Але — яшчэ не зусім мае. Бо — чаму ж гэта я, каторы так помню, так люблю свайго задуменна-самотнага, з ціхай слязой у вачах, дзеда ля млына ў полі, ямнаўскага дзеда-беларуса, — чаму я пішу па-руску?..

Ды неўзабаве пашчасціла натуральна перайсці ад Блока да Максіма Багдановіча з яго цыклам "Каханне і смерць" — да **сваёй** мелодыі... Упэўнены: да **свайго** мелодыі. Разам: да **свайго** — ад, як ты кажаш, "неўразумеласці гэтага свету". Бо чаму ж гэта і тыя лілеі, і лебедзі ў мяне — як ветразі?..

**— У мяне склалася цвёрдае застаялае ўражанне, што ты — дзетдомавец, хоць я добра ведаю, што гэта не так... Ці дзетдомаўцам ты стаў пазней, а ўжо цяпер і ўвогуле дзеддомавец?..**

— Не разумею, Лёня, што ты ўкладваеш у паняцце "дзетдомавец"... Я дзетдомаўцаў ведаў і любіў. Маладым настаўнікам нават бываў на ўроках у дзетдомаўскай сярэдняй школе ў Сваяцічах, што пад Ляхавічамі. Тыя дзеці яшчэ цудоўна чыталі вершы Пушкіна і Купалы. А найбольш мяне ўразіла тое, што сваяціцкія дзетдомаўцы гаварылі чыста пабеларуску. Нават настаўнікі былі **змушаны** гаварыць з імі, з дзецьмі, **па-іхняму**, на іх роднай мове. Але — то былі дзеці канца пяцідзесятых, пачатку шасцідзесятых гадоў. Многія з іх сталі пасля настаўнікамі роднай мовы. На жаль, па камандзе зверху, пазней яны перасталі гаварыць (і думаць) па-беларуску. Яны перасталі быць **тымі** дзетдомаўцамі...

Вось у такім ракурсе і я — **дзетдомавец**. І я не хачу ім перастаць быць. А новых, сучасных, дзетдомаўцаў я не ведаю. Як не ведаю і самога сябе, цяперашняга. Ведаю толькі адно: і тыя дзетдомаўцы, бывала і такое, уцякалі з дзетдома, блукалі, "бамжавалі". І я тое рабіў і, на жаль — а можа, і на шчасце, — раблю. Дзетдомавец!.. Але — не, Лёня, не, толькі не дзеддомавец...

**— Пішаш мне, што кватэра ў Пружанах, якую табе Саюз пісьменнікаў выбіваў "праз Заламая" з такой цяжкасцю — не свая, не родная табе, няўтульна ў ёй і цяжка жыць, бы ў астрозе якім... Мо таму, што яе табе менавіта "далі, усунулі", як тую міласціну жабраку... А ты й не прасіў, дарэчы...**

**У Папялёве быў прастор, воля, пушча — паэзія... А ў Пружанах — тратуар, асфальт, лесвіца, блочны пакой — сярмяжная проза...**

— Так, у Папялёве, у Белавежскай пушчы, я стаяў на свайго вакна ў мансардзе і — бачыў: во — пушча, во — дрэвы, там — крушня, во — птушкі, во — ляцяць дзікія гусі, во — ідуць маладыя, прыгожыя суседкі з кароўнікa, во — яны трохі паспалі, упраўляліся дома па гаспадарцы і зноў ідуць на ферму, а во — ідзе паштарка, яна падымаецца да мяне па крутой драўлянай слізкай лесвіцы (ты яе яшчэ помніш, Лёня, лесвіцу, лесвіцу, вядома?), дае чаканы канверт і міла, цёпла ўсміхаецца мне...

У Пружанах, у горадзе, усяго гэтага няма. Тут пляцоўка перад дзвярыма маёй кватэры — запляваная, закіданая недапалкамі, а прыступкі пад'езда — у россыпе дробных каменьчыкаў, на якіх я спатыкаюся сваімі хворымі нагамі, бо, калі дом будаваўся, надта мала сюды далі цэменту, будаўнікі яго прапілі...

Таму я еду пісаць сваю "сярмяжную прозу" ажно ў тубдыспансер ці як яго яшчэ называюць: санаторый Вярховічы. Там — імітацыя маёй папялёўскай Пушчы.

**— Як жыць літаратару, каб нанова не паўтараць сваё жыццё ў слове, а напісаць іншае?..**

— Жыць так, як жывецца не **літаратару**, а — чалавеку. А чалавек ніколі не паўтарае сваё жыццё нанова. І пісаць трэба пра сябе — кожны раз і кожны дзень **новага**. Тады гэта, напісанае, можа стацца цікавым для іншых. Бо — **непаўторанае**...

**— Можна сказаць, што ўсё сваё жыццё ты абыходзішся сам сабою... Творцу сям'я лішняя? Дзе твае дзеці, паэт? І — хто будзе плакаць па табе? Няўжо ж — чытачы?! То была б вялікая ўдача...**

— Ніколі не абыходзіўся **сам сабою**. Толькі — людзьмі, а найбольш — прыродай: рэчкай, дрэвам, кустом, птушкай...

Творцу сям'я ніколі не лішняя. А калі ты маеш на ўвазе асабіста мяне, дык скажу: не мне, творцу, сям'я была лішняя, а я сям'і — быў лішні. Таму ўсё сваё жыццё я і пакутую: дзе мае дзеці?..

А плакаць... Калі заплача **адна** жанчына па мне, то я і там, пад зямлёй, захлынуся ад шчасця...

**— Твая, блізкая да аўтабіяграфічнай, проза апошняга часу ці не ёсць "вяртаннем блуднага сына"?**

— Помніш пяткі **таго** "блуднага сына"? Дык вось: пра тыя пяткі я яшчэ не напісаў. Бо пісаць пра іх — надта балюча. Але — трэба. Каб застаць — цьфу-цьфу-цьфу! — пісьменнікам шчырым.

**— Мікола, колькі гадоў назад ты ўжо, можна сказаць, пачуваўся лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі... І раптам — нехта недзе "вымыкае" цябе, как свиное рыло из калашного ряда, а агульнага — прагаласаванага і зацверджанага дзяржкамітэтам па прэміях — лаўрэацкага спіса...**

**Як ты паставіўся да такога паскудства, спакойна? Бо, ведаю, адны — плачуць ды па другім і трэцім крузе "заходзяць", а дамагаюцца, каб іх прызналі сваімі...**

— Наконт твайго пытання пра маё ці чыё лаўрэацтва — што казаць? Абсалютна, Лёня, абсалютна гэта мяне не трывожыла і цяпер не хвалюе.

Хачу толькі адно сказаць: калі я пачуў, што мне прысудзілі Дзяржпрэмію, то падумаў: ну, нарэшце і я куплю сабе новыя шкарпэткі... Яй-Богу, без усякай іроніі...

**— Падзяліся тым, як ты пішаш... Колькі напісаў, колькі з таго згубіў і што засталося?**

— Добра, што згубіў. Бо згубленае потым сталася зноў знойдзеным. Ад злосці: згубіў — зрабі наноў. Ад злосці: лепш! Але гэта ўжо — ад сілы волі! Дзякаваць Богу — яна ў мяне яшчэ ёсць. Пакуль...

**— Адкуль любоў да электрычак, вакзалаў, дарог?**

— Ад пожаду ВОЛІ...

**— На чым трымаецца душа Міколы Купрэева, на кім? Чым жывецца, у што верыцца і ці ёсць яшчэ жаданне жыць?..**

— На дзяцінстве. На памяці пра яго. Як там? — **усе мы з дзяцінства**. У дзяцей ніколі не паўставала пытанне, жыць ці не? Жылі... І — будзем жыць.

**— Айчына, народ, дзяржава, мова — наколькі гэта цябе хвалюе? Ці тыя пытанні ў чалавечым жыцці, на якіх трэба "спаць", як вядомаму герою рамана Чарнышэўскага Рахметаву, — на цвіках?**

— "Айчына, народ, дзяржава, мова"... Гэта мяне ніколькі не хвалюе. Таму што ведаю, упэўнены — гэта вечнае. Цяпер гэтыя паняцці парушаныя. Але яны, хоць цяжка, хоць як — стануць асновай нашай ідэі. А ідэя якая? Быць людзьмі...

**— А скажы: табе сённяшнія людзі падабаюцца, сучасны беларускі чалавек табе блізкі, зразумелы?**

— Мне, як настаўніку і педагогу, цяжка сказаць пра сённяшніх людзей. Як цяжка сказаць і пра самога сябе. Скажу адно: няма школы... Няма менавіта беларускай нацыянальнай школы. Ад гэтага ўсё й пайшло. Настаўнікаў — няма. Большасць з іх толькі атрымліваюць грошы. Для іх дзеці — грошы. І ўрокі для іх — таксама грошы... А школы — няма... І ў гэтым наша беларуская бяда. Але — вытрываем. Чаго не бывае!..

**— Любоў і нянавісць — сёстры жыцця!**

— Любоў і нянавісць?.. Дык гэта ж дабро і зло. Гэта ж — вечнае.

**— Сталіца і правінцыя — у чым тут розніца і што агульнае? Як важна для літаратара дзе жыць? Ці важней — чым жыць?**

— Калі я еду ў электрычцы летам, гляджу за вакно, бачу нашае месца — ля рэчкі, ля лесу, на паляне, — то думаю: во тут бы выкінуцца з вакна, ля той, вунь, бярозкі ацікнуць з бутэлькай віна, з акрайцам чорнага хлеба і яшчэ адной бутэлькай віна — і больш нічога не трэба...

Во якая правінцыя! А вы думалі: сталіца — разумная?..

**— Давай, Сымонавіч, наастатак трохі пра літаратуру падыскутуем, а то ў газеце творчай інтэлігенцыі нас могуць не зразумець... Скажы, а ці ёсць геніяльныя творы ў беларускай літаратуры?**

— "Новая зямля" Якуба Коласа.

**— Як пячаткай шлопнуў — без разваг і сумненняў... А ўвогуле, што блізка Купрэеву з нашай нацыянальнай і замежнай літаратуры? Каго ён чытае ці хацеў бы пачытаць у самотную хвіліну жыцця?**

— Помніш мой адказ на тваё першае пытанне? Задуменна-самотнае... Гэта — "Герой нашего времени" Лермантава, "Олеся" Купрына, проза Тургенева, "Стэпь" Чэхава, проза Буніна, "У снягах Кіліманджара" Хемінгуэя, вершы паляка Галчынскага, іспанца Гарсія Лоркі, раннюю прозу валагодца Бялова, Ліханосава... Я іх перачытваю як і прозу Гарэцкага, Чорнага і Брыля.

Як ні дзіўна, найчасцей люблю перачытваць прозу Тургенева, асабліва яго "Отцы и дети"...

**— А твае стаўленне да маладой беларускай літаратуры? Ці сочыш за новымі імёнамі?**

— Мне падабаюцца маладыя паэтэскі-дзяўчаткі. Я іх бачыў на фотаздымках у "ЛіМе" — Ісlач... Такія ўжо вясёлыя, такія ўжо снегавітыя! А вершы? Ведаю: будуць! Перагараць, перавяселяцца — вершы будуць. Гэта новае пакаленне, хай яно расце, хай яно вяселіцца-самоціцца. Ой, як добра было б, каб яно хоць крышку прысамоцілася...

**— Мікола, ты ўжо напісаў даволі ёмкую кніжку прозы, а выдаць яе ўсё аніяк рукі не даходзяць — ні ў цябе, кажучы шчыра, ні ў шаноўных нашых выдаўцоў, як дзяржаўных, так і прыватных...**

**Чаму яны ўсё выдаюць сябе, а не цябе?..**

— Яны выдаюць таго, каго **цяпер** чытаюць. Мяне не чытаюць... Ну, хай і не выдаюць.

**— А калі думаць не пра цяпер, а пра заўтра, то што яшчэ хацелася б напісаць Купрэеву, а што закрэсліць з ужо напісанага, што — помніць, а што — забыць?**

— Напісаць тое, што напішацца. І нічога з таго, што напісалася, не закрэсліць. Бо — **тое** напісалася.

А вось забыць пра нешта — гэта не ўдасца. Таму — боль застаецца... Таму — на душы задуменна-самотна...

*Мінск — Пружаны,*
*20 лістапада 1999 г.*



## ЧАСАПІС

# "Ды матай сабе на вус"

**Сталыя чытачы газеты "Звязда" добра запомнілі гэтыя два нумары яе, а многія, несумненна, і захавалі, таму могуць дакладна засведчыць дзень выхаду іх у свет: першы з'явіўся 10 кастрычніка 1992 года, другі — 14 кастрычніка 1993-га. А цікавасць да іх невыпадковая: не часта надараецца прачытаць у перыёдыцы, прытым у газетнай, такія выдатныя творы, якімі з'яўляюцца, па аўтарскім вызначэнні, "сатырычныя паэмы нашага часу" "Ачмурэнне" і "Гэй, наперад! Гэй, назад!"**

**Праўда, наконт аўтарства, дык тут, як з тым знакамітым Ведзьмаком-Лысагорскім, — не захацеў аўтар назваць сваё сапраўднае прозвішча, а выступіў на**




**старонках шаноўнай газеты ў першым выпадку як Баркулаб Дамавік-Крывіцкі, у другім — як Базыль Раскапэнда-Бабэцкі. Хоць чытач, які "усё ведае", гэтым разам, бадай, не сумняваўся, хто напісаў згаданыя творы: вельмі ж ужо вылучаўся аўтарскі "почырк". Але, паколькі ў маю задачу не ўваходзіць устанаўленне аўтарства вышэйназваных твораў, хіба адно засведчу: нават той, хто нядаўна яшчэ сумняваўся, што яны напісаны... (ледзь, прабачце, не сказаў, кім), упэўніцца, калі пазнаёміцца з кніжкай, выпушчанай "Беларускім выдавецкім таварыствам "Хата". А яна і складаецца з гэтых па-сапраўднаму народных твораў. А народныя творы, разважыўшы, дык мо і павінны пісаць народныя паэты?.. Але гэта, як кажуць, між іншым.**

**Кніга, калі ўдасца яе набыць (наклад невялікі, усяго 500 асобнікаў), найперш прынясе радасць тым, хто з паэмамі пакуль незнаёмы. Канечне, прыемна іх і перачытваць, але куды прыемней атрымліваць гэтую асалоду ўпершыню. Тым больш, што самім тэкстам папярэднічае хораша напісаная Васілём Вільтоўскім прадмова "І смех, і боль", у якой гаворыцца і пра паэмы, і пра сатырычна-гумарыстычныя традыцыі ў беларускай літаратуры. А паэмы яшчэ лепш успрымаюцца, дзякуючы невялікаму аўтарскаму ўступу "Ну, пара зрабіць пачатак...":**

*А з чаго пачну я гэту*
*Непрадбачаную рэч?*
*Ці з таго, як мы планету*
*Ад сябе піхнулі прэч?*
*Ці з таго, як шчыравалі*
*На халодную вайну?*
*Не! З таго, як падарвалі*
*Веру ў душах — я пачну.*

**А як падрывалася гэтая вера, як спустошваліся людскія душы, як зняверваліся людства ва ўсім добрым, як правілі баль прыстасаванцы (і як шмат прыстасаванцаў правяць баль сёння), як шмат рабілася таго (і робіцца па-ранейшаму), чаго ні ў якім выпадку рабіць нельга — пра гэтае і многае іншае можна прачытаць у паэмах, напісаных лёгка, месцамі афарыстычна, з тонкім гумарам, а часам і са з'едлівым сарказмам. Што ж, без гэтага нельга, калі сэрца абураецца той несправядлівасцю, якой так шмат у нашым тлумным жыцці. Але паэмы не толькі выкрываюць зло, высвечваюць заганы, яны і заклікаюць да таго маральнага і духоўнага ачышчэння, неабходнасць якога — рана ці позна — павінны мы ўсвядоміць:**

*Дык пачнём, калі гатовы*
*Ты, мой братка-беларус.*
*Пранікай у сэнс размовы*
*Ды матай сабе на вус.*

**Як не пагадзіцца з В. Вільтоўскім: "З'яўленне ў друку гэтых двух твораў — каштоўны падарунак аматарам вясёлага і дасціпнага слова, яшчэ адно пацверджанне, што традыцыя ўмець смяяцца жыве ў беларускім народзе і адміраць не збіраецца".**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ВІНШУЕМ!

# З памяццю аб вялікай вайне

... У АПОШНІ перадваенны год юнак закахаўся ў сваю аднакласніцу. Пачуццё было настолькі моцнае, што, "правучыўшыся месяц" у політэхнічным інстытуце, куды з атэстатам выдатніка паступіў без экзаменаў, вярнуўся ў роднае мястэчка. Пакінуў інстытут, каб мець магчымасць у суботу і нядзелю бачыць яе, Гэлю Машчынскую, "якая вучылася ў педагагічным інстытуце ў бліжэйшым ад... мястэчка горадзе" і ў гэтыя дні наведвалася да бацькоў. Але свята не атрымалася, праз некаторы час дзяўчына прызналася шчыра: "Я люблю другога, не цябе... А з гэтым трэба канчаць... Мне проста сорамна!" Пасля гэтага юнак "пайшоў да раённага ваенкома і папрасіў накіраваць... у лётнае вучылішча". За месяц ці за два да вайны атрымаў ад Гэлі ліст — невядома, як знайшла яна адрас. Маўляў, "застанёмся сябрамі, пра сябе — здала залікі, была цяжкая сесія". А потым пачалася вайна, якая шмат перайначыла ў лёсе кожнага. Ды не забылася колішняе пачуццё: "Пасля вайны ўжо некалькі разоў быў на радзіме. Гэлі не застаў: яе сям'я ў пачатку вайны эвакуіравалася ў тылавыя раёны і назад у мястэчка не вярнулася. Таполі ўцалелі, разрасліся: не сквер цяпер, а зялёны востраў. Не ведаю, ці прыязджала ў мястэчка Гэля, а калі прыязджала, то ці выклікалі ў яе які-небудзь успамін таполі ў прыстанцыйным скверыку..."

...А гэтая гісторыя куды бліжэйшая да сённяшняга дня. У штодзённых клопатах дажывае свой век адзінокая жанчына. Каб мець побач блізкую душу, узяла кватарантку. Тая збіраецца замуж за маладога настаўніка, які "скончыў інстытут і... дырэктарам ставяць", хоць і не кахае яго. А цішком сустракаецца з іншым. Гэта выклікае ў Мар'і розныя пачуцці. І абурэнне паводзінамі дзяўчыны, і шкадаванне яе. Так адбываецца да таго часу, пакуль жанчына не прыгадвае ўласнае юнацтва, успамінае казака Хведзьку, у якога закахалася без памяці, а было тое ў першую сусветную вайну: "Перад Мар'яй, як днём у сне, выплыў раптам зноў бялявы, з сінімі, як васількі, вачамі твар Хведзькі. Не, відаць, ад таго, што схавана ў сабе самой, не ўцячэш, нікуды не дзенешся. Хіба не ведала яна, тады яшчэ дзеўка, што любоў з салдатам, ды яшчэ ў вайну, нічога добрага не прынясе, скончыцца пакутай? Ведала, але гнала прэч усялякія думкі. І цяпер, пражыўшы жыццё, сябе за былое не дакарае". А перад другой сусветнай вайной Мар'я выйшла замуж за іншага, ды шчасця не атрымалася. Дзяцей з Іванам не прыжылі, а пайшоў на фронт, таксама загінуў. Толькі ўжо на другой сусветнай вайне: "Эх, Іван, Іван!.. Самага галоўнага ты так і не разгадаў. Любіла цябе шчыра, а за Хведзьку крыўдавацца было не варта. Хіба ў бабскай душы адна толькі песня? Хіба не расказала табе, як на споведзі, што і як было, не глядзела цябе, не чакала з работы, не старалася дагадзіць у самых малюткіх дробязях?.."

Два апавяданні Івана Навуменкі, паміж якімі ляжыць шлях у дзесяць гадоў. Першае "Таполі юнацтва" напісана ў 1962 годзе, другое — "Іван ды Мар'я" — у 1972-м. Пры жаданні можна паставіць поруч і іншыя — балазе, навелістыка Івана Якаўлевіча вельмі багатая і аб'ёмная: шмат кніг апавяданняў з'явілася з-пад яго пяра! Але менавіта гэтыя два выбраў я, бо, як на маю думку, яны вельмі характэрныя для празаіка і, па сутнасці, вызначаюць галоўныя накірункі яго навелістычнай творчасці. А гэта — вяртанне да "таполяў юнацтва", да лёсаў "хлопцаў самай вялікай вайны" (як чытач ведае, так называецца адно з лепшых апавяданняў І. Навуменкі — "Хлопцы самай вялікай вайны..."), адначасова ўважнае стаўленне да людскіх лёсаў увогуле, чым заўсёды жыла і чым па-ранейшаму жыве літаратура. І. Навуменка ўжо на працягу 45 гадоў (першыя свае апавяданні апублікаваў у 1955-ым на старонках часопіса "Маладосць") даследуе жыццё чалавека на віхурных скрыжаваннях часу, а ўзяўшыся за гэтую нялёгкую працу, піша і гаворыць ад імя свайго пакалення.

Пакаленне ж Івана Якаўлевіча — пакаленне тых, хто сустрэў вайну ў семнаццацігадовым узросце, ці розніцай у нейкі год-другі ў меншы альбо большы бок. Дарэчы, адно з яго апавяданняў так і называецца — "Семнаццатай вясной". А гэта — "вынішчанае пакаленне". "Вынішчаным" яго І. Навуменка назваў у адным са сваіх нядаўніх твораў — у аповесці "Любімы горад", а тады, калі пісаліся апавяданні, якія склалі змест кніг "Семнаццатай вясной", "Хлопцы-равеснікі", "Верасы на выжарынах" і "Таполі юнацтва", зразумела, падобнае паняцце ў дачыненні да тых, хто не вярнуўся з вайны, і да тых, хто прыйшоў з яе, рана пасталеўшы, ён не магло з'явіцца, бо пра гэта нельга было пісаць. Але, тым не менш, І. Навуменка ад праўды не адыходзіў, хоць, каб выказаць яе, мусіў пісаць вельмі лаканічна, у нечым агульна: "З дзевятага класа пайшло на фронт шаснаццаць, прыйшло толькі чацвёра. Ляжаць яны, хлопцы дваццаць чацвёртага і дваццаць пятага года нараджэння, у брацкіх магілах ля вёсачак і безыменных вышынь ад Дняпра да нямецкай Эльбы".

Так гаворыць пісьменнік пра лёс і боль свайго пакалення ў невялікай аповесці "Грымленне дубовага лісця". Падобнае сведчанне ў тым ці іншым варыянце часам можна знайсці і ў іншых творах. Гэта ўсё не адпускае ад сябе І. Навуменку памяць аб мінулай вайне, і ён мусіць часта вяртацца ў перажытае, каб выказаць тое, што лепш могуць выказаць толькі непасрэдныя ўдзельнікі барацьбы з фашызмам. У творах І. Навуменкі аб мінулай вайне важныя, аднак, не столькі сцэны ўсеагульнага гераізму і мужнасці, колькі сам дух тых, хто ваяваў. Маральны стан учарашніх бязвусых юнакоў, а потым падпольшчыкаў, партызан, байцоў рэгулярнай арміі.

З імі сустракаешся не толькі ў апавяданнях, а і ў творах "вялікага" жанру, сярод якіх у першую чаргу трэба вылучыць раманы "Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах", "Сорак трэці", што склалі трылогію, якую сёй-той з крытыкаў называе "партызанскай эпапеяй", што ўжо само па сабе — вельмі высокая ацэнка. Але, думаецца, усё ж згаданыя раманы не абмяжоўваюцца толькі "партызанскім зместам". І. Навуменка надзвычай глыбока пранікнуў у душу чалавека на вайне і паказаў саму вайну як антычалавечную, антыгуманную з'яву ў самых розных яе праяўленнях, незалежна ад "прывязанасці". Неістотна, дзе гэта адбываецца: у глыбокім тыле, на акупаванай тэрыторыі ці на фронце. Вайна знішчае чалавека ў чалавеку, замахваецца на самае святое і светлае. Вайне можа супрацьстаяць толькі гераізм, мужнасць. Яе страшны знішчальны, разбуральны механізм можа зламаць высокі маральны дух народа.

І пра гэта таксама раманы І. Навуменкі. І як у апавяданнях, пісьменнік найбольш пільна прыглядаецца да маладых герояў. У нечым таксама піша з сябе, а калі глядзець шырэй, зноў жа робіць гэта ад імя свайго пакалення. Міця Птах, яго сябры Іван Лобік, Нупрэй Гіль, а таксама іншыя юнакі, частка гэтага пакалення. Найбольш свядомая, патрыятычна настроеная. Гэта тыя, на кагоў цяжкую гадзіну Радзіма магла спадзявацца. Як магла яна спадзявацца і на Сяргея Каліноўскага, Косцю Цітка, Косцю Русаковіча і іншых персанажаў рамана "Смутак белых начэй". Калі ў трылогіі дзеянне адбываецца на тэрыторыі Беларусі, дык гэтым разам далёка ад яе. Нездарма першапачатковая назва твора — "Карэльскі перашыек", якраз у тых мясцінах ваявалі летам 1944 года многія беларусы, мабілізаваныя ў армію пасля вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У рамане "Смутак белых начэй" пісьменніку ўдалося цесна спалучыць дзве плыні — лірычна-ўзнёслую і спавядальна-засяроджаную, што дазваляе яшчэ лепш спасцігнуць унутраны свет герояў, зразумець іх настрой, пачуцці, перажыванні. І чарговы раз адчуць, наколькі вайна несумяшчальная з жыццём, а яшчэ больш — з юнацтвам. Амаль усе мястэчкоўцы, якія трапілі на Карэльскі перашыек, мусяць загінуць. У рамане ўсё паказана так, як адбывалася ў самім жыцці. І ў жыцці навуменкаўскага пакалення:

"Кулямёт па-ранейшаму захліпаецца вогненнымі пырскамі. На імгненне Косця бачыць заплаканы твар Насці... Насці дадуць пенсію, думае Косця...

Кулямёт змаўкае. У гэтае імгненне Косця з усім спрытам матляецца ўбок... Вырваўшы чаку з лімонкі, Косця шпурляе гранату пад самы вогненны струмень. Выбуху не чуе — адчувае толькі, як штосьці гарачае, пранізлівае ўпіваецца яму ў ногі, грудзі, руку. Ён яшчэ добра валодае сабой, усё бачыць і чуе. Кулямёт змоўк. Але як толькі ад зямлі падымаюцца шынялі, гімнасцёркі, пачынае сячы з большай сілай. Напружыўшы апошнія сілы, Косця ўстае... робіць два-тры крокі, затым падае сваім доўгім целам на вогненны струмень. Байцы падымаюцца, бягуць...".

Такая яна, праўда вайны, пададзеная з пярэдняга краю. Занатаваная адным з непасрэдных удзельнікаў тых незабыўных і векапомных падзей. Раманы І. Навуменкі хораша ўпісваюцца ў сучасную беларускую літаратуру аб гераічных падзеях. І хоць яна вельмі багатая на яркія творчыя індывідуальнасці, І. Навуменка ў ёй годна займае сваё месца. Адно з першых месц. Творца яркай мастакоўскай індывідуальнасці, піша ён па-свойму непаўторна. Яго ні з кім не пераблытаеш. А гэта таксама сведчанне непаўторнасці таленту.

Было б, аднак, памылковым, а да таленту Івана Якаўлевіча ў нечым абразлівым, усе набыткі яго зводзіць толькі да ваеннай прозы. У нашай літаратуры І. Навуменка з'яўляецца і яркім песняром сучаснасці. Свядома падкрэсліваю: песняром сучаснасці, бо ў такіх творах, як аповесці "Развітанне ў Кавальцах", "Замець жаўталісця", "У бары на світанні" і іншых, закранаючы маральна-этычную праблематыку, пісьменнік надзіва хораша паэтызуе каханне, праўдзіва перадае пачуцці людзей, якія ў мітуслівым свеце знаходзяць адзін аднаго і нярэдка — з вялікай цяжкасцю. Але і тут І. Навуменка паказвае жыццё такім, якім яно ёсць. За радасцю ўзаемнасці нярэдка прыходзіць цвярозы роздум, як быць далей. Так сталася і з героямі аповесці "Замець жаўталісця" Высоцкім і Галяй, якія нарэшце зразумелі, што "свята пачуццяў" — не вечнае. Найперш адчуў гэта, як старэйшы, Высоцкі...

Надзіва добра дагледжаная, апрацаваная ў І. Навуменкі і літаратуразнаўча-даследчыцкая дзялянка. Сапраўды ўжо — талент, якому роўных няма. Унікальны выпадак: І. Навуменка вельмі плённа працуе як празаік і не менш плённа аналізуе празаічныя набыткі іншых. Ды каб жа толькі празаічныя?! У полі зроку Івана Якаўлевіча нязменна знаходзяцца і лепшыя творы сучаснай паэзіі, драматургіі. І, канечне ж, шмат працуе ён, даследуючы творчую спадчыну. Менавіта за працы "Янка Купала. Духоўны воблік" і "Якуб Колас. Духоўны воблік героя" ў 1972 годзе быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа, а яшчэ ў 1967-ым стаў лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі за кнігу прозы "Таполі юнацтва". І што важна, апошнім часам з вялікім задавальненнем звяртаецца да дзейнасці тых класікаў нацыянальнай літаратуры, творчасць якіх вымушае, сыходзячы з сённяшніх рэалій, новага, больш глыбокага прачытання і асэнсавання. А ў выніку з-пад пяра І. Навуменкі з'явіліся кнігі "Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч", "Змітрок Бядуля", "Максім Багдановіч"...

У невялікім слове немагчыма ахапіць неахопнае, таму па-за межамі гэтай гаворкі засталіся шмат якія тэмы і кнігі Івана Якаўлевіча, а яны рэгулярна з'яўляюцца на старонках часопісаў "Полымя", "Маладосць", "Беларусь", выходзяць у выдавецтвах "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва". І сведчаць, што талент пісьменніка, не зважаючы на паважаны ўзрост, па-ранейшаму жыццядайны. І. Навуменка ўпэўнена трымае пяро ў руках, а працуе апантана творча, бадай, не толькі таму, што нямала мае яшчэ мастакоўскіх задум, якія спяшаецца здзейсніць. Робіць гэта і перад памяццю тых, хто з вайны не вярнуўся, а сярод жа іх маглі быць і будучыя пісьменнікі. Значыць, самому трэба напісаць тое, што маглі б яны напісаць.

...Калі скончылася Вялікая Айчынная вайна, І. Навуменку было ўсяго дваццаць пяць гадоў. З памяццю аб ёй ён пражыў ужо двойчы гэты ўзрост. І хацелася б, каб зямны шлях Івана Якаўлевіча — народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і проста выдатнага чалавека яшчэ доўжыўся б і доўжыўся. І каб не згасала ў яго душы памяць аб мінулай вайне. Праўда аб мінулай вайне, якая так патрэбна сёння.

"Далёкія, палітыя крывёй дарогі віхурнай маладосці. Хто адважыцца кінуць камень у тых, хто па іх прайшоў?.." — гэтым пытаннем заканчваецца апавяданне І. Навуменкі "Праз дзень пасля салюта...".

Пытанне, звернутае да ўсіх нас.

Пытанне, звернутае і ў дзень заўтрашні.

На яго таксама адказваць нам. І літаратуры...

Хацелася б, каб адказам гэтым стала ўважлівае стаўленне да цяпер ужо далёкіх падзей, праўдзівае асэнсаванне іх. Як гэта і робіць Іван Якаўлевіч Навуменка.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Ачышчэнне праз прыроду

## Міколу КУСЯНКОВУ — 65



Леў Талстой неяк зазначыў: "з цягам часу перастануць выдумваць мастацкія творы". Гэтае выказванне яго міжволі згадваеш, калі ў думках перагортваеш старонкі творчасці Міколы Кусянкова. І ў сваёй паэзіі, і ў прозе ён нязменна ідзе ад самога жыцця. У тым ліку часта адштурхоўваецца ад уласна перажытага. А біяграфія Мікалая Сяргеевіча цікавая.

Нарадзіўся М. Кусянкоў 11 лютага 1936 года ў вёсцы Перарост Добрушскага раёна. Скончыўшы ў 1953 годзе Буда-Кашалёўскі лясны тэхнікум, працаваў у лясгасах Калінінградскай вобласці, лесаўпарадчыкам на Беларусі і ў Сібіры. У 1955 годзе выступіў з першымі вершамі. Цяга да літаратуры і прывяла на Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Саюзе пісьменнікаў СССР, якія скончыў у 1971 годзе. Гэта прадвызначыла далейшы лёс: пачаў працаваць намеснікам адказнага сакратара абласной газеты "Гомельская праўда". У 1980—1985 гадах быў рэдактарам аддзела прозы часопіса "Полымя". А пасля перайшоў у выдавецтва "Мастацкая літаратура". Загадваў рэдакцыяй прозы, працаваў намеснікам галоўнага рэдактара. Ды і цяпер не развітваецца з "Мастацкай літаратурай". А да ўсяго ў 1982 годзе скончыў завочна факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Кнігі паэзіі М. Кусянкова "Жывіца", "Без прывалу", "Дуброва" многімі сваімі творамі "выраслі" з той часіны, калі ён звязаў лёс з лесам. І, канечне ж, з улюбёнасці ў прыроду, якая не згасла ў сэрцы і пасля таго, як знайшоў іншую працу. Прырода ў паэзіі М. Кусянкова не проста прысутнічае, яна жыве, дыхае. Яна вабіць сваёй чароўнасцю і непаўторнасцю, запрашаючы да сябе, ачышчаючы душу чалавека, робячы яго лепшым, больш духоўна багатым і маральна чыстым.

Гэта тычыцца і прозы М. Кусянкова. У лепшых сваіх творах (а пачынаў ён з апавяданняў, якія склалі змест кнігі "Завязь") ён таксама паўстае паэтам. І чалавекам улюбёным у прыроду. Героі апавяданняў М. Кусянкова не ўяўляюць сабе лёсу без яе. Яны — частка яе, як і яна — частка іх саміх.

З пяшчотай і замілаваннем піша М. Кусянкоў пра тых, хто ніколі не забывае аб сваіх вытоках, для каго прырода — сапраўдны храм. У асобных творах відавочна прысутнічаюць аўтабіяграфічныя моманты. Пацвярджэнне таму — апавяданні "Сады на Прыпяці", "Час жалудоў", "Матылёк на мосце", "Мядзведжая шкура". Ды і ў іншых творах шмат што ўзятае з самога жыцця. Здавалася б, не цяжка і паўтарыцца, тым больш, што сітуацыі, пакладзеныя ў аснову іх, часта звязаны з "лясной" працай персанажаў. М. Кусянкоў не паўтараецца. Ад апавядання да апавядання паглыбляюцца, як бы становяцца больш аб'ёмнымі, нейкімі "осязаемыми" характары герояў, і паступова заўважаеш, што пісьменнік па сутнасці ствараe партрэт аднаго чалавека, паказанага толькі ў пэўныя перыяды яго жыцця.

Гэта тычыцца і аповесці "Палявы сезон". І, канечне ж, згадваючы аб набытках М. Кусянкова-празаіка, нельга не назваць яго раманы "Явар з калінаю" і "Арляк і зязюля", што склалі дылогію. Яны, як і апавяданні, шмат у чым лірычныя, але і публіцыстычныя таксама. Аднак гэта найчасцей публіцыстыка ўнутраная, калі псіхалагічна-глыбока раскрываюцца асобныя перыпетыі жыцця галоўных герояў і чалавек бачыцца на віхурных скрыжаваннях часу. Не адмаўляецца М. Кусянкоў, аб чым, у прыватнасці, сведчыць другі раман, і ад рамантычнай, дэтэктыўнай лініі. А гэта — сведчанне шматграннасці ягонага таленту, здатнасці пісаць так, каб і было пераканаўча-праўдзіва, і чытач з нецярпеннем чакаў далейшага разгортвання падзей, адразу не здагадваючыся, у якім кірунку гэта будзе адбывацца.

Проза М. Кусянкова, таксама, як і яго паэзія, моцная сваёй жыццёвай асновай. Не толькі дакументальнай, а менавіта жыццёвай. "Дадумваць" асаблівай патрэбы няма, бо яго вялікасць вынадак становіцца найлепшым апавядальнікам ці раманістам, які і "дапамагае" пісьменніку. Таму і прываблівае проза М. Кусянкова, з аднаго боку, лірычнасцю, паэтычнасцю, а з другога — неардынарнасцю людскіх характараў, нечаканасцю сітуацый і калізій.

**Вацлаў АНЦІПЕНКА**



*З Максімам Танкам, Васілём Быкавым, Піменам Панчанкам і Алесем Адамовічам. 1979 г.*



*Івану Навуменку Ціхан Кісялёў уручае дзяржаўную ўзнагароду. 1973 г.*



*З Алесем Адамовічам, Іванам Мележам, Леанідам Прокшам і Янкам Брылём. 1963 г.*



*З Уладзімірам Гніламёдавым. 1974 г.*



*Іван Навуменка сярод чытачоў. Магілёў. 1978 г.*

*Фота Ул. КРУКА*

ДРУК

# Гербы шмат нам гавораць...

Летась у выдавецтве "Беларускі кнігазбор" выйшла з друку чарговая кніга Зміцера Яцкевіча "Малы гербоўнік халопеніцкай шляхты". У рэцэнзіях на кнігу, якія публікаваліся ў газетах "Культура", "Книжный мир" і інш., як правіла, адзначалася унікальнасць, каштоўнасць яе дакументальнага матэрыялу. Я таксама далучаюся да гэтых ацэнак, але хачу засярodзіць увагу чытача на той акалічнасці, што гэтая кніга з'яўляецца своеасаблівым працягам дарэвалюцыйных традыцый "Аршанскага гербоўніка" (Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Могилевской и Витебской, хранящихся в Центральном архиве. Т. 28, ч. 2. Витебск, 1900) і інш.

На мой погляд, вартасць "Малога гербоўніка халопеніцкай шляхты" ў тым, што ён уключае не вядомыя раней архіўныя матэрыялы, што ў прадмове даецца гістарычны агляд мястэчка Халопенічы, паведамляецца, дзе і як вёўся пошук адпаведных гербаў і іншых каштоўных дакументаў, зроблены крыніцазнаўчы і археаграфічны агляд, акрэслены прынцыпы і метады апрацоўкі дакумента, што кніга мае падрабязны дадатак у выглядзе слоўніка тэрмінаў, асабовага і геаграфічнага паказальнікаў, спіса скарачэнняў і табліцы гербаў.

Пры напісанні кнігі З. Яцкевіч карыстаўся такімі рарытэтнымі крыніцамі, як "Volumina legum", т. 8; "Словарь древнего языка Северо-Западного края и царства Польского" Н. Гарбачэўскага (Вільня, 1874); "Herbarz Polski", т. 1—14 (Варшава, 1899—1911) і іншымі выданнямі.

Такім чынам мы маем усе падставы лічыць гэтае выданне навуковым. Яно папаўняе гісторыка-культурны скарб нашай бацькаўшчыны.

Такія выданні з'яўляюцца добрым дарадцам тым, хто шукае свае карані. Прыватная генеалогія і геральдыка даюць магчымасць даведацца пра тых асоб, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё нашай культуры і гісторыі.

З. Яцкевіч у сваім гербоўніку падае дакладнае апісанне родаў з указаннем таго, калі і які герб іх быў зацверджаны і калі яны былі прызнаны ў дваранстве.

Аўтар не толькі паказаў, але і фактычна пацвердзіў, што наш народ мае вельмі глыбокія гістарычныя карані. Генеалогія і геральдыка дапамагаюць зразумець старажытную гісторыю беларускага народа.

Разважаючы пра гербоўнік халопеніцкай шляхты, нельга не сказаць і аб папярэднім выданні гэтай серыі — "Малым гербоўніку навагрудскай шляхты" (Мн. 1997), дзе З. Яцкевічу належыць трэць надрукаванага матэрыялу. Кніга ахоплівае 202 прозвішчы родаў, мае неабходныя паказальнікі і тлумачэнні. Варта адзначыць, што гербоўнік халопеніцкай шляхты З. Яцкевіч, захоўваючы напрацаваныя традыцыі, зрабіў больш дасканалым, больш зручным для практычнага карыстання. Дакументы і матэрыялы ў ім размеркаваны па двух раздзелах: "Старажытная шляхта" і "Неафіты", дзе ўпершыню выдзелена ў асобны раздзел шляхта габрэйскага паходжання.

Упэўнены, што кніга З. Яцкевіча знойдзе сваіх чытачоў, якія па заслугах ацэняць яе годнасць. Мяркую, што імі будуць як навукоўцы, так і "масавыя чытачы".

У асобе З. Яцкевіча ў кагорце навукоўцаў з'явіўся малады самабытны гісторык, які валодае здольнасцю даступна і цікава данесці да чытача невядомыя старонкі нашай гісторыі. Хочацца пажадаць яму плённай працы, новых цікавых і змястоўных кніжак.

**Зміцер ДАВІДОЎСКІ,**
**супрацоўнік Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**

## "Странница"

**У "Беларускім кнігазборы" выйшла чарговая кніга Марыны Наталіч "Странница". Аўтар нарадзілася на Далёкім Усходзе (Расія), у порце Ваніна. У 1974 годзе скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, больш дваццаці гадоў працавала ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Цяпер — супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Піша і перакладае паэзію і прозу, але больш вядома як паэт. М. Наталіч — аўтар дзвюх кніг: "Первая встреча" (у калектыўным зборніку) і "В лесном саду". "Странница" — споведзь лірычнай гераіні, яе жаданне разабрацца ў самой сабе, у стасунках з іншымі людзьмі. Вершы М. Наталіч вылучаюцца**




**вобразнай насычанасцю, малюнкі, якія падаюцца ў іх, ствараюць цэлую гаму асацыяцый, выклікаюць роздум. Паэтэса піша так, што месцамі адчуваеш яе схільнасць да жывапіснага ўспрымання рэчаіснасці. Асобныя творы — завершаныя эцюды, падгледжаныя пільным вокам. Як гэты невялікі верш:**

*Господи, какая благодать —*
*В белый снег глазами упадать,*
*Белый снег ладонью взбить слегка,*
*Чтобы пролетающая птица*
*Верила, что это облака.*

**Запамінальны атрымаўся вобраз дарогі ў вершы "***у дороги башмаки сносились..." Як і ў першым выпадку, М. Наталіч піша лаканічна, не злоўжывае чытацкім даверам, але гэта той выпадак, калі вобразам цесна, але яны не перашкаджаюць адзін аднаму, а ўзаемна дапаўняюць:**

*У дороги башмаки сносились,*
*У дороги ноги подкосились,*
*И легла она ничком*
*сквозь тёмный лес.*

*Пусть немного отдохнёт дорога,*
*Сил хлебнет у моего порога*
*И, крутая, встанет до небес.*

**Лірычная гераіня М. Наталіч — сучасная жанчына, якой часам вельмі няўтульна ў нашым складаным свеце. Яна шукае паразумення і не заўсёды знаходзіць яго. Яна, натура чулая, душэўная, адкрытая шукае сапраўднае каханне, але замест яго нярэдка напаткоўвае толькі прывід таго, што магло быць. Ёй прагнецца звычайнага жаночага шчасця:**

*Под самое сердце, вгрызаясь в печенку,*
*Страсть проникала — хочу ребенка!*
*Я же сильная, я же славная —*
*Буду зваться мамою.*

*Все глаза исплакала,*
*Муку укачивала,*
*Судьбу заклинала,*
*Сто раз переиначивала.*

**Як няцяжка заўважыць, у вершах — само жыццё. Не прыглянцаванае, а такое, якое і ёсць у сапраўднасці. І чалавек у гэтым жыцці таксама паўстае такім, які ён ёсць. У гэтым прывабнасць паэзіі М. Наталіч. Як і ў цэлым кнігі "Странница", што ужо назвай настройвае на тое, што лірычная гераіня будзе знаходзіцца ў пастаянным пошуку. Быць на ростанях — ёй наканавана лёсам. Але яна прымае гэты лёс годна, бо чалавек моцны.**

**Паспяхова працуе М. Наталіч і ў галіне перакладу, аб чым сведчаць яе перастварэнні па-руску асобных твораў Максіма Багдановіча, змешчаныя ў гэтым зборніку. М. Наталіч імкнецца быць бліжэй да арыгінала, але гэта — не сляпое капіраванне яго ў іншай моўнай стыхіі, а павага да таленту таго, хто напісаў творы.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПАЭЗІЯ

Віктар
ВАБІШЧЭВІЧ



# Ты куды вядзеш, дарога?

*Можна разгадваць таямніцы гісторыі і нельга разгадваць таямніцы паэзіі.*

*Гісторык і паэт Віктар Вабішчэвіч цудоўна ўсведамляе: ш т о можна разгадваць, а ш т о нельга...*

*Гісторыя поўная бясконцых загадак; паэзія ж поўная бясконцага харαства...*

*Думаць пра таямніцы і цешыцца хараством, пакутаваць і спадзявацца — школьна-вядомае правіла творчага існавання.*

*Віктар Вабішчэвіч імкнецца адпавядаць гэтаму ўсеагульнаму правілу і, не ўмеючы абараніць свой талент цынізмам, паволі шукае свой змест...*

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

•

*Я слухаў легенды азёраў старых*
*Маўкліваю чэрвеньскай ноччу —*
*Аб белых палацах,*
*аб цёмным бары,*
*Аб лёсах зламаных дзявочых.*

*Шапталі прадонні*
*бясконцы свой сказ,*
*Лілеі яго дапаўнялі,*
*Згадалі яны найцудоўнейшы час*
*І полымя кветак Купалля.*

*І выдалі хвалі мне тайну адну,*
*Што месяц збірае іскрынкі,*
*Якія ляцяць ад начнога агню —*
*Ляцяць на ваду, залацінкі.*

*Збірае, каб потым запальваць агні*
*У сэрцах усіх закаханых,*
*І зоркі ляцяць*
*на зямлю з вышыні*
*Да мілых, жаданых, адданых.*

*Згасаюць паволі начныя кастры*
*Пад музыку росаў халодных,*
*Заснулі пратокі, прыціхлі віры —*
*Дрымота на сцежках падводных.*

*Я слухаў легенды і слухаць хачу,*
*Пакуль не заснулі азёры,*
*А недзе на хвалях чарот шапацеў,*
*Плыў месяц у вечным дазоры.*

•

*Дзе мы плакалі над сваёй душой,*
*Там цяпер вырастаюць дзіды,*
*Там душы няма — толькі змрок прыйшоў,*
*Там чужыя даўно краявіды.*

***Незнаёмая зашуміць трава —***
***Не пачуе ніхто каліну.***
***На заморскі лад прывітаюць вас***
***І ў бядзе адзінокіх пакінуць.***

***Знік спрадвечны лес, і знікае лёс.***
***Ты куды нас вядзеш, дарога?***
***У глухі нябыт, дзе пустэча скрозь...***
***Дзе абшары бязмоўя злога...***

•

***Гарэлі-палымнелі кнігі,***
***Вакол вогнішчаў здзічэла скакалі***
***Скамянелыя жывыя істоты.***

***Кнігі ўсе потым вярнуліся да нас —***
***Знойдзеныя ў закінутых куточках,***
***Захаваныя ў легендах і сказах,***
***Узрошчаныя самой зямлёй,***
***Абмытыя слязамі нядбайных,***
***Адроджаныя з дыму і попелу.***
***Яны ажылі і загаварылі.***

***Толькі ніколі не вернуцца***
***Душы тых, хто знішчаў кнігі,***
***Хто хацеў зруйнаваць памяць.***

## Эпітафія

***Яшчэ***
***З эпохі Ура і Лагаша[1]***
***Застаўся людзям запавет,***
***Які гаворыць пазалотай і дагэтуль:***

***— Мы,***
***Забітыя***
***Рукамі несправядлівых,***
***Не жадаем такой смерці***
***Сваім забойцам.***

## Бастылія

***Французы,***
***Даведзеныя да роспачы,***
***Зруйнавалі Бастылію —***
***Сімвал прыгнечанасці нацыі,***
***І на тым месцы зрабілі***
***Пляцоўку для танцаў.***
***Але народ Францыі***
***Не пусціў у глум***
***Ніводнага помніка***
***сваёй даўніны.***

***Народ Беларусі***
***Некалькі стагоддзяў***
***Страчвае свае старыя***
***і новыя набыткі.***
***Знікаюць нашы палацы і храмы,***
***Разбураюцца старадаўнія муры,***
***Забываюцца гарады,***
***азёры і рэкі,***
***Але ніяк усё не ўдаецца нам***
***Знішчыць нашу Бастылію.***

*[1]Старажытныя дзяржавы, якія знаходзіліся на тэрыторыі сучаснага Ірака.*


*Фота У. КАГУЦЕНКІ.*

Алена ЯСКЕВІЧ



## Сляпы кароль

***Ліецца кроў.***
***"І зноў у Сербіі асляплены кароль..."***
***Сляпы выгнаннік і прарок,***
***Манах і творца,***
***Укленчыў прад Міколам Цудатворцам:***
***"Угоднік Божы, Забяры мой зрок,***
***Хай ясназорцам стане***
***Род.***
***І мой народ".***
***Агеньчык свечкі ледзь ліпіць.***
***Ляцяць вякі.***
***О, Стэфане[1]!***
***Пакуты болем могуць асляпіць,***
***Бо слепнеш сам ад хцівае рукі.***
***Не маці — мачахаю***
***Грызмуе вясна.***
***Не бомы жаўруковыя,***
***А — бомбы.***
***Зямля ў адчаі.***
***І я не даўяраю сёння снам***
***І да Цябе спяшаюся ў Дэчаны[2].***
***Каронаю ўсплывае маладзік.***
***Выратаванне рогам.***
***Відушчым вокам Сербія глядзіць***
***У вочы Богу.***

•

***А паміж намі — акіян.***
***Людскія хвалі — хуткай рэчкай.***
***І звычак стрыманых***
***стрыечнасць.***
***То роднясць,***
***то ламаюць нас.***
***Маўчы. Ні славечка ў адказ,***
***Мне тайны сэнс даўно вядомы.***
***Пакута шчасця не для нас —***
***Няхай другіх яна адорыць.***
***Ад продкаў шлях-наканаванне:***
***Ляцець Страцімавым крылом,***
***І вечнае ахвяраванне,***
***Нібы на злом,***
***на злом,***
***на злом...***

*[1]Стэфан Дэчанскі — празарлівы манах, святы пакутнік, кароль Сербіі.*

*[2]У час дзесяцігадовага ўладарання над Сербіяй кароль Стэфан адбудоўвае славуты Дэчанскі манастыр (край Косава), дзе і зараз знаходзяцца яго святыя мошчы, якія ўшаноўваюцца нават мусульманамі.*

***На злом***
***гарачай галавы.***
***Ёй непасэдна***
***на плячы.***
***Мы — ўкрыжаваныя мячы,***
***Мы — вочы мудрае савы.***
***Што не засне***
***і не мігне.***
***Мяне***
***Сястрой бярозка называе,***
***І абдымае голлем стан,***
***Ды карані свае хавае,***
***Бо паміж намі —***
***акіян.***

## Страты

***— З тых трох кітоў***
***Адзін застаўся кіт? —***
***Смяюся,***
***З ружовым блытаюць блакіт.***
***Стаюся.***
***На небе кудзёркі аблокаў,***
***А гром бурчыць.***
***І навальніца дзесь далёка,***
***Ручай вурчыць.***

***І рамы, рамкі, нібы краты,***
***Як крык Вірсавіі...***

***Якія мы панеслі страты,***
***Падлічым самі.***

ПРОЗА

Іван НАВУМЕНКА



# НА БЕРАЗЕ ВОЛГІ

СТАРОНКІ З АПОВЕСЦІ "ПОМНІ СТАЛІНГРАД"

У хмурым кастрычніку маршавая рота прыбывае на бераг Волгі. Горад гарыць. Такое ўражанне, што нехта распаліў агромністы, гіганцкі пажар, у якім няма нічога жывога.

Перабіраюцца праз Волгу ноччу. Шырокая рака ў вогненных водсветах. Байцы грузяцца на пантоны. Іх некалькі. Немцы безупынна б'юць па рацэ з гармат, мінамётаў. Гарыць нафта. З падбітага нафтавоза. Неба зацягнута шэрабурымі воблакамі. У прагалах праглядвае крывавае зарыва.

У суседні пантон трапляе снарад. Зброя, боепрыпасы тонуць. Байцы боўтаюцца ў халоднай вадзе. Некаторыя трымаюцца за бярвенні, дошкі, стараючыся ўтрымацца на паверхні, не патануць. Другія чапляюцца за перагружаныя пантоны. Іх б'юць па руках, не даючы ўзабрацца да тых, каму пашэнціла. Інакш пантон патоне.

Жудасная карціна! Крык, лямант нясецца па вялікай рацэ. Пра асобнага чалавека тут не думаюць. Кожны ратуецца як можа.

Наступае світанне. Правы бераг кручы, абрывісты. Байцы караскаюцца наверх. Дрозд і цяпер узводны. Толькі звычайнага стралковага ўзвода. Узабраўшыся на бераг, байцы займаюць пазіцыі. Пачынаюць акопвацца каля доўгага двухпавярховага будынка. Хутка высвятляецца: у падвале дома, каля якога яны занялі абарону, туляцца сем'і сталінградцаў, якія не паспелі перабрацца на ўсходні бераг. Парадзелы полк мусіць абараняць заводскі пасёлак.

Тыя, што сядзяць у падвале, некалькі дзён нічога не елі. Дзеці плачуць. Галодныя мацяркі не ведаюць, што рабіць. Байцы аддаюць дзецям недатыкальны запас.

Тут жа побач фабрыка-кухня. Прыціскаючыся да зрытага варонкамі долу, байцы займаюць пазіцыі вакол яе. Тут і ветка чыгуначная праходзіць. Абслугоўвала некалі завод. На рэйках нават дзве цыстэрны з нафтай засталіся.

Нібы богам падорана байцам фабрыка-кухня. Квадратны яе будынак мае падвальнае памяшканне, ёсць за што трымацца і дзе затуліцца. Бо за якіх-небудзь трыста-чатырыста метраў — кручы бераг Волгі.

Кастрычнік палівае руіны дажджамі, засцілае туманамі. Неба па-ранейшаму зацягнута хмурымі воблакамі. Але з гэтых воблакаў хваля за хваляй вывальваюцца нямецкія самалёты. Імі валодае д'ябальская рашучасць як мага хутчэй скінуць савецкіх байцоў у Волгу.

Немцы кідаюцца ў бясконцыя атакі, часам з танкамі. Самалёты бамбяць завод, прылеглыя да яго вуліцы, будынкі, фабрыку-кухню.

Загараецца адна з напоўненых нафтай цыстэрн. Лопаецца, нібы вогненны шар. Лава агню застывае перад самымі акопамі абаронцаў.

Дрозд радуецца, што не ён цяпер камандзір узвода сувязі. Асколкі мін, снарадаў, бомбаў перабіваюць провад кожную хвіліну.

Міны, бомбы, кулямётныя чэргі. З раніцы да вечара. Без перадыху. Нашы саракапяткі б'юць з адкрытых пазіцый. Бо іншага выйсця няма. Байцы кідаюцца пад танкі са звязкамі гранат. На ўсім бачным прасторы гараць нямецкія танкі!

Дрозд адчувае: у такіх схватках ніхто не думае пра смерць. У час атакі кроў кіпіць, няма другога жадання, як адолець, пагнаць з занятых пазіцый ворага.

А ўвогуле пасля атакі, у абароне глыбей уціскайся ў непадатлівую каменістую зямлю. Яна — збавенне. На твары пыл, пясок на зубах, у вушах. Чыста расліннае жыццё. Дрозд, як і байцы ўзвода, ні пра што не думае. Думаць няма часу. Зрэдку ўсплывае ў памяці роднае мястэчка, іхняя хата, зарослы травой двор, дальняя станцыйная таполі.

Мінае дзень, два, тыдзень. Вось такая вайна. Палкі знясіленай, палавіннага, а можа, і меншага, саставу дывізіі замацоўваюцца на рубяжы трох вуліц. Прастор пашыраецца. Але ад гэтага не робіцца лягчэй. Нямецкая пяхота параненейшаму напірае на абаронцаў фабрыкі-кухні пад аховай танкаў. Танкі байцы расстрэльваюць з гармат, закідваюць гранатамі, бутэлькамі з гаручай сумессю. Адзін баец узняў бутэльку з гаручай сумессю, каб кінуць на танк. Куляй яе разбівае. Тады ён, вогненны слуп, хапае другую бутэльку, выскоквае з акопа і разбівае яе аб маторную рашотку машыны.

Тут няма слова герой. Насмерць стаяць усе. Гарматы артылерыстаў выведзены на прамую наводку. У бліжэйшым ад правага вугла фабрыкі-кухні гарматным разліку застаўся толькі адзін параненны артылерыст. Танкаў, аднак, не прапускае. Сам падносіць снарады, зараджае гармату, страляе.

Левы бераг памагае. Пры кожным паяўленні танкаў перад імі вогненны смерч.

На такой вайне трэба пабываць. Адчуць яе ўласнай скурай. Інакш не будзеш ведаць, што такое сапраўдная вайна.

Байцы бяруць у палон нямецкага маёра. Ён у акуратна адпрасаваным, чыстым мундзіры. Палкавы перакладчык далёка. Дапытвае маёра сяржант Дрозд. Слоў не хапае. Але размову весці можна. Нездарма ён чытае абрыўкі нямецкіх газет.

— Даўно пад Сталінградам?

— Са жніўня. Наступалі спачатку на паўднёвым напрамку.

Палонны дрыжыць, як асінавы ліст. Выцірае хусцінкай успатнелы лоб.

— Чаму вы нацэліліся на гэты пасёлак?

— Начальства лічыць: тут лягчэй прарвацца да Волгі. Менш за паўкіламетра...

Прыпаўзае счарнелы камадзір батальёна. Убачыўшы перапалоханага дашчэнту немца, крычыць:

— На бераг яго. У штаб. Перакладзі: хай не дрыжыць. Мы палонных не расстрэльваем...

Немцы прарваліся да Волгі. Каля вусця ракі Царыцы. Разгарнуцца ім, аднак, не даюць.

Час ушчыльніўся. Наогул яго няма. Ёсць выбухі, грымоцце матораў, агонь, дым, зарыва. Нават жалеза гарыць. Усе дасягненні тэхнікі зведзены тут да таго, каб знішчыць чалавека, сцерці яго ў парашок, у ныл.

Ноч — дзень, дзень — ноч. За танкамі, як заўсёды, ланцуг аўтаматчыкаў. Няспынны гул выбухаў зліваецца ў пранізлівую шалёную хвалю. Пекла. Канец свету...

Танкі на хаду страляюць з гармат, кулямётаў. Смерць на кожным квадратным метры. Пра яе ніхто не думае. Закураны, цёмнатвары баец, жыхар падзямелля, кідае пад гусеніцу танка звязку гранат. Танк круціцца на адной гусеніцы. У бок яму ўсаджвае снарад саракапятка, схаваная за чэзлымі кусцікамі высокага палыну. Б'е артылерыя з левага берага. Карэкціроўшчык сядзіць ля падвальнага акна фабрыкі-кухні. Тры танкі гараць, аўтаматчыкі знікаюць.

У Драздовым акопчыку штосьці глуха стукае. Ён бачыць: тырчыць з зямлі стабілізатар нямецкай міны. Ён мігам выкульваецца з акопчыка. Міна, аднак, не ўзрываецца.

Колькі прайшло месяцаў? Два, тры?

Дыхнула зімой. Бляклa мільгаюць зоркі. Першы замаразак. Толькі не гэта галоўнае. Раптам чуюцца агромністай сілы грымоты. Такой кананады яшчэ не было. Па горадзе б'е дальнабойная артылерыя з-за Волгі, з завыванием пранасяцца зыркія палосы-снарады "Кацюш", ажывіліся нават гарматкі-саракапяткі, што ва ўпор расстрэльвалі нямецкія танкі: ледзь не на самым беразе Волгі.

Становіцца вядома: Сталінградскі, Стэпавы, Варонежскі франты пераходзяць у наступленне. Нездарма гаварыў Сталін аб свяце на нашай вуліцы. Хоць свята яшчэ не наступіла...

Нарэшце радасная вестка: армія Паўлюса акружана. Наогул уся сталінградская групоўка сядзіць у катле. Такой весткі не было за ўсю вайну.

Дрозд запамінае дзень — 19 лістапада тысяча дзвяцьсот сорак другога года. У тое, што здарылася, Дрозд укладвае нават містычны сэнс. Роўна праз год армія вызваліць Паддубічы. Так яму гаворыць нейкі патаемны ўнутраны голас.

Жыць весялей. Немцы ўжо не рвуцца з такім імпэтам у атакі. Навошта ім бераг Волгі? Але і крылляў не складваюць. Страляюць, абараняюцца.

Ясна: хочуць вырвацца немцы з катла. Праўдзівей: Сталінград пакідаць не збіраюцца, гэта — крэпасць на Волзе. Такі загад Гітлера. Да гэтай крэпасці хочуць прабіць калідор.

Пакуль што акружаная армія Паўлюса забяспечваецца паветраным шляхам. Адзін цюк з правіянтам, зімовымі рэчамі перахопліваюць абаронцы фабрыкі-кухні.

У падвале фабрыкі-кухні — свята. Байцы прывалаклі крыху пакамечаны самавар, патэфон, кардонную скрынку з пласцінкамі і тоўстую ватную коўдру. З нямецкага цюка сёе-тое перапала таксама: некалькі бляшанак кансерваў, дзве бутэлькі віна і нават пара цёплых шарсцяных шкарпэтак.

Іх байцы ахвяруюць Дразду як камандзіру ўзвода.

Захутаныя, цёмныя байцы п'юць віно, ядуць кансервы, слухаюць знаёмыя песні.

Сувязісты, якія сядзяць побач, перадаюць: танкавы генерал Гот ідзе на выручку Сталінграда, хоча разблакаваць кальцо акружэння. Толькі, відаць, не разумеюць немцы, што насталі іншыя часы. Не пойдзеце вы, фашысты, пераможным крокам наперад. Насмерць стаяць пад Кацельнікавам савецкія байцы і Гота, вядома, не прапускаюць.

А ў горадзе немцаў выкурваюць з падвалаў, руін, сутарэнняў. Убогі выгляд маюць завеўнікі свету. З абмарожанымі чырвонымі насамі, ахутаныя рознымі трантамі, лахманамі. Нікчэмны зброд... Так яно і павінна было здарыцца. Авантура не можа скончыцца перамогай.

Няўжо ў вайне, у смяротэльным віры, мясарубцы можна думаць пра які-небудзь асобны лёс? Аднак дзеецца нешта падобнае. У Сталінград Дразда паслалі вучыцца, а ён абараняе горад. Ён раншыў задачы Харкаўскага універсітэта і ледзь не загінуў ва ўкраінскім стэпе. У Сеўск паслалі іх, дзесяцікласнікаў, дзеля размеркавання, а цяпер Сталінградская дывізія нібыта накіроўваецца вызваляць Сеўск. Дзіўны круг...

Толькі дзе тыя хлопцы, якія прыбылі ў Сеўск? І наогул, дзе маладое пакаленне, якое вырасла перад вайной? Параэмятала, параскідала па розных франтах. І ці многа засталося жывых?

Пісем Дрозд ні ад каго не атрымлівае. Нічога пра сяброў-таварышаў не ведае.

Дывізія прыбыла пад Сеўск напрадвесні. Папоўненая, добра апранутая, абутая. І жыць лягчэй. На свеце ўжо ўступае ў правы вясна сорак трэцяга года. Хутка будзе два гады вайне.

Так, абарона пад Сеўскам зусім не тое, што Сталінград. Хоць і тут страляюць. Нашы страляюць і немцы страляюць. Але ёсць поўнага профілю акопы, аплеценыя фашынамі траншэі. Харчаванне тры разы на дзень. Хоць не такое выдатнае. Заладзяць тыдні на тры пярловую сечку, або яшчэ горш, магаравую кашу, і свет робіцца нямілы. Але будзеш есці, бо іншага другога не прапануюць.

Для палепшання пазіцый у немцаў адваёўваюць вёсачку. Нават харчовы склад захопліваюць. Божа, чаго толькі ў фашыстаў няма! Як у тым цюку, які немцы скінулі сваім бядотнікам у Сталінградзе і які трапіў у размяшчэнне роты. Розныя кансервы, шмальц, плаўлены сыр, штучны мёд у вялізных бляшанках і нават цаглінкі хлеба, якія, не псуючыся, могуць захоўвацца месяц ці нават два.

Не гэта ўражвае. Байцы асталёўваюцца ў хаце, усе сцены якой абклеены нямецкімі газетамі. Іван хутка вызначае: газеты розныя, за мінулы год і нават за гэты. Такой раскошы ён яшчэ не бачыў. Гэта не газетныя шкуматы, якія падбіраў на дарогах і, вымаючы з рэчывага мяшка слоўнік, чытаў.

Газеты да сцяны прымацаваны кнопкамі. Акуратны народ немцы. Іван здымае дзесяткі два газет, з прагнасцю на іх накідваецца. Даведваецца аб многім, аб чым нават не здагадваўся. У Германіі быў траур па Сталінградзе. У прамове, прысвечанай страце арміі на Волзе, Гітлер заявіў, што атрымана вялікая перамога. Пад Сталінградам, маўляў, загінула армія — уся, да апошняга салдата, — але яна скавала некалькі савецкіх армій, якія б у адваротным выпадку стаялі б, магчыма, на самым Дняпры. Карацей, шостая армія Паўлюса, ахвяраваўшы сабой, выратавала Германію.

На гэты раз Дразда выклікае начальнік штаба палка, высокі, тонкі маёр-сталінградзец, які заўсёды курыць люльку.

— Я цябе памятаю, — гаворыць Івану. — У Сталінградзе дапытваў немца. Пойдзеш ва ўзвод пешай разведкі. Камандзірам. Там такія людзі патрэбны.

Памаўчаўшы, маёр дадае: помні Сталінград. Я не ваенны, я настаўнік. На свеце яшчэ не было такой бітвы. Нельга перамагчы народ, у якога быў Сталінград...

Ураканы гэтымі словамі Дрозд не ведае, што адказаць.

— Мы прадстаўлялі цябе на лейтэнанта, — працягвае начальнік штаба. — Відаць, паперы згубіліся. Не вешай нос: яшчэ раз прадставім.

Дрозд просіць перавесці ў разведку чатырох байцоў, з якімі асабліва зжыўся. Начальнік штаба дазваляе.

Дрозд лёгка, як і раней, прывыкаецца сярод разведчыкаў. Ён не прагне ўзвышэння, да кожнага ставіцца як да роўнага, ні з кім не заводзіць асаблівай дружбы.

Памкамузвода па-ранейшаму камандуе ўзводам. Сталінградцаў ва ўзводзе двое ці трое і яшчэ чатырох прывёў Дрозд. Астатнія — навічкі. Але ўвогуле хлопцы зухаватыя, пранырлівыя.

Дрозд не такі, які быў да Сталінграда. Штосьці ў ім змянілася. Што? Адразу не адкажаш. Паэт напісаў: "Есть упоение в бою..." Існуе штосьці такое. Дрозд ведае: ёсць хвіліны, калі зусім не думаеш пра жыццё, няма страху перад смерцю, быццё—небыццё зліваюцца ў адно. Чалавек, які гэта зведаў, подзвігамі пахваляцца не будзе. Бо ён нібы зазірнуў за заслону небыцця, нічога страшнага там не ўбачыўшы.

Вясна канчаецца. Наступае лета сорак трэцяга года. Што прынясе яно спакутаванай, знясіленай краіне? Густым разнатраўем пакрываецца поле, узлобкі, нават леташніх брустверы акопаў. Птушкі спяваюць. Толькі людзей не відаць. Іх або пагналі немцы, або самі яны сышлі ў больш зацішныя мясціны.

Блізка мясціны Тургенева, Талстога. Славутыя мясціны. Далёка зайшлі немцы ўглыб Расіі. Яшчэ ніхто так далёка не заходзіў.

жаецца пошукам новага гучання, новых формаў. Я лічу, што хада па пратаптанай сцежцы — не зусім прафесійны занятак, але неабавязкова і некуды збочваць: можна гэтую сцежку пашырыць, каляіну паглыбіць. У кожным разе слухач заўсёды мае выбар. Тыя, каму не падабаюцца нашы стылістычныя змяненні, могуць проста пайсці на іншы канцэрт. У нас няма імкнення любым спосабам утрымаць аўдыторыю, хаця, з іншага боку, хацелася б яе таксама пашырыць. Думаю, што гэта абавязкова адбудзецца і нават ужо адбываецца, дзякуючы менавіта пэўным стылістычным змяненням.

**— Алег, я так разумею, што пакуль вы вызначаеце кірунак развіцця калектыву, бо як кампазітар, аранжыроўшчык уплываеце на рэпертуар. Але ж творчым людзям уласціва эмацыянальная неўраўнаважанасць, што можа выклікаць творчы перапынак альбо спарадзіць ідэю, якая парушыць вызначаную канцэпцыю...**

— Я не лічу, што выконваю нейкую незаменную працу. Калі будзе неабходнасць, дык знойдзецца і новы чалавек, здатны да гэтай справы, і неабавязкова артыст нашага ансамбля. Думаю, калі ёсць сцяг, пад якім згуртаваны баявы атрад, ёсць аблічча, почырк, курс, дык усё астатняе — не праблема. Галоўнае — не спыняцца, а ўвесь час рухацца наперад. Я вельмі люблю адну думку: "Чалавек не можа сябе прымусіць змяніцца, але заўсёды здольны змяніць абставіны, якія затым памяняюць яго самога". Так адбылося з нашым калектывам, і цяпер само жыццё падказвае нам, куды рухацца далей.

**— Ці ёсць гэты рух своеасаблівым пошукам уласнай нішы ў музычнай культуры, ці вы прэтэндуеце на тую, якую займалі "Песняры" з Мулявіным?**

— Шчыра кажучы, наша прызванне, абавязак — спяваць, іграць, ствараць, а не змагацца за нішу ў музычнай культуры. Думаю, што ўсё пакажа і рассудзіць час. І ўсё ж у нейкім сэнсе ўдзельнікі калектыву ўжо адказалі на ваша пытанне сваёй творчасцю і ганаровымі званнямі, астатнія ж яшчэ павінны будуць адказаць сваёй працай. Мы не абмяркоўваем сваё месца ў культуры, а імкнёмся належаць да яе лепшай часткі. Арыентуе ў гэтым і рэакцыя слухача, але... Часта музыкант думае, што падабаецца публіцы аднымі вартасцямі, а насамрэч — зусім за іншае. І, бывае, узнікае дысананс між тым, што артыст імкнецца выказаць, а публіка пачуць.

**— Чаму так адбываецца?**

— Проста артысты дрэнна сябе разумеюць. І добра, калі ёсць прафесійны прадзюсер, які не дазволіць рабіць няправільныя крокі і арыентуе артыста менавіта на тую частку публікі, якой ён патрэбны. У нас такога чалавека няма. Мы самі стараемся прадугледзець, чаго чакае ад нас публіка, і суаднесці гэта са сваімі творчымі прынцыпамі і жаданнямі.

**— Мяркуючы па вашых стасунках з залай, вам гэта ўдаецца. Дарэчы, "Беларускія песняры" не маюць намеру адмовіцца ад фальклору, які звычайна вельмі станоўча ўспрымаецца публікай?**

— Зварот да фальклору, безумоўна, — самы кароткі шлях да сэрцаў публікі. І ўсё ж лічу, што фальклорам у чыстым выглядзе павінны займацца прафесіяналы. "Беларускія песняры", гэтак жа як і раней ансамбль "Песняры", ніколі такой задачы перад сабою не ставілі. Іншая рэч — стылізацыя, цікавая захапляючая справа. Пакуль што мае версіі народных песень у сучасным гучанні слухачам падабаюцца. І пакуль ёсць публіка, якая хоча гэта пачуць, падманваць яе чаканні нельга.

**— А як успрымае беларускі фальклор у вашых інтэрпрэтацыях расійская публіка?**

— Мы вельмі ўдзячныя тамтэйшай публіцы за тое, што яна не толькі ўважліва ставіцца да рускамоўных песень, але і імкнецца зразумець і нашы беларускія, у тым ліку і апрацоўкі.

**— Вы часта вандруеце па Расіі, рэгулярна з'яўляецеся на расійскіх тэлеканалах... Не дапускаеце, што з часам можаце "зліцца" з расійскай эстрадай?**

— Практычна мы робім усё дзеля таго, каб захаваць свой твар. Я наогул не дзяліў бы эстраду. Добрай музыкі ў свеце заўсёды было і будзе меней, таму нам хацелася б зліцца, не губляючы сваіх адметнасцяў, з гэтай меншай, але лепшай часткай.

**— І адна з асноўных адметнасцяў — у назве "Беларускія песняры"? Чым яшчэ, акрамя азначэння "беларускія" і перыядычнага звароту да фальклору, вы акрэслілі б сваю нацыянальную вызначанасць?**

— Для ўсіх нас Беларусь — гэта Радзіма. Дзе б мы ні былі, што б ні спявалі, у нас заўсёды адчуваюцца яе дух, энергетыка і, безумоўна, любоў да зямлі, якая нас выгадавала. У нашым рэпертуары ёсць песня, дзе мы прызнаёмся ў гэтай любові: "Мінская зорка". Калі "Беларускія песняры" абмяркоўвалі праграму новага альбома, "Мінская зорка" без пярэчанняў у яе ўвайшла, пры тым што я наогул як асоба, непасрэдна спрычыненая да стварэння рэпертуару, не ўдзельнічаў у яго абмеркаванні. Таму з годнасцю магу сказаць: для нас аказалася лагічна і натуральна — прызнацца перад усімі патэнцыяльнымі слухачамі альбома, незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці, у любові да сваёй Радзімы.

**Гутарыла Таццяна ЯКУШАВА**

---

Іграць Моцарта няпроста. Можна сказаць, яго музыцы існуе не без цяжкасці ствараемая лёгкасць. Неабходны бездакорнае тэхнічнае майстэрства, мера і густ, каб у строгія музычна-канструктыўныя межы ўдыхнуць трапяткую эмоцыю, каб не перайсці тую хісткую грань, за якой прыгажосць абарочваецца прыгожасцю. І тэхнічная дасканаласць, і мера, і густ — усё гэта прысутнічала ў выкананні Г. Дзем'янчука. Ён уразіў публіку проста-такі педантычным адчуваннем моцартаўскага стылю — з захаваннем усіх рэпрызаў і "бесцялесна-клавесіннай" гучнасцю раяля.

Інтэрпрэтацыя "Крэйслерыяны" Шумана выявіла новыя грані ў майстэрстве піяніста. Гук зрабіўся яркім і шчыльным, з выкарыстаннем усіх фарбаў з палітры гэтага караля інструментаў. Публіка пачула такія характэрныя для рамантызму кантрасты: млосць і парыванне, змрочную нямецкую філасафічнасць і нястрымную эмоцыю.

Слухачы доўга не хацелі адпускаць украінскага артыста. Прыгожай віньеткай у заключэнні канцэрта прагучала сыграная на "біс" старадаўняя музыка французскіх клавесіністаў.

А днём праходзіла навуковая канферэнцыя. Паведамленне на тэму "Праца над піяністычнай тэхнікай" зрабіў І. Алоўнікаў. Тэхніку часта разумеюць толькі ў вузкім сэнсе — як спрытнасць пальцаў выканаўцы. Насамрэч гэтае паняцце значна шырэйшае. Часам працяглую, кантыленную мелодыю сыграць складаней, чым нейкі віртуозны пасаж. Ігар Уладзіміравіч абагульніў усе магчымыя тэхнічныя цяжкасці, з якімі сутыкаецца выканаўца-піяніст, і даў неабходныя практычныя рэкамендацыі.

Адбыўся і дзённы канцэрт Івана Сцепанцова. Гэты малады беларускі піяніст пачаў сваё трыумфальнае шэсце ўжо ў раннім дзяцінстве. Ён — удзельнік многіх конкурсаў, на якіх паспяхова выступаў і заваёўваў "лаўры". Гомельскім слухачам Іван прадставіў санаты С. Пракоф'ева і Я. Брамса.

Заключны дзень фестывалю пачаўся з выступлення прафесара Л. Шаламенцавай. Яна расказала пра асаблівасці беларускай піяністычнай школы, пра сваіх вучняў, якія на прэстыжных конкурсах заваявалі славу нашай краіне. Потым дала адкрытыя ўрокі навучэнцам каледжа мастацтваў.

Адной з самых яркіх падзей фестывалю сталіся канцэрты вучняў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, таксама лаўрэатаў міжнародных конкурсаў. Вучань 11 класа Цімур Шчарбакоў іграў творы Ф. Шапэна, вучань 12 класа Аляксандр Баравікоў бліскуча выканаў найцяжкую санату С. Пракоф'ева.

Уразіла і выступленне лаўрэата міжнародных конкурсаў Аляксея Пятрова з творамі Р. Шумана, С. Рахманінава і А. Скрабіна: рэдкасная глыбіня пранікнення ў такія розныя музычныя стылі!

Завяршальным акордам свята прагучала выступленне І. Алоўнікава: накцюрны Ф. Шапэна, ронда Л. Бетховена, уласныя фартэпіянныя транскрыпцыі артыста.

На жаль, з-за "матэрыяльных" прычын не змаглі прыехаць абвешчаныя ў праграме калектывы — аркестр Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам прафесара М. Казінца і аркестр г. Маладзечна пад кіраўніцтвам маэстра Р. Сарокі. З-за хваробы адсутнічалі і некаторыя піяністы-педагогі, прафесары Беларускай акадэміі музыкі.

Тым не менш, фестываль прайшоў удала. Было шмат слухачоў (у тым ліку педагогі з іншых гарадоў краіны). Навучэнцы каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага пазнаёміліся з узыходзячымі зоркамі беларускай піяністычнай школы. Усё гэта, безумоўна, натхняе і абуджае творчыя сілы.

Дзякуй вам, дарагія лаўрэаты. Прыязджайце да нас яшчэ.

**Эдуард КІРЫЛЕНКА,**
**дырэктар Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага**

*На здымку: удзельнік фестывалю — лаўрэат міжнародных конкурсаў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі народны артыст, прафесар Ігар АЛОЎНІКАЎ.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

---

ТВОРЧАСЦЬ

# Падарожжа ў белы снег

Што і казаць. Далёка не кожны мастак піша з натуры. Яшчэ радзей сустрэнеш жывапісца, які можа пахваліцца сваімі зімовымі краявідамі, створанымі на пленэры. Аднак ёсць сярод творцаў такія дзівакі, што гадзінамі, перамінаючыся з нагі на нагу, малююць на марозным паветры. І кажуць, "кайф" у гэтым асаблівы — працаваць трэба хутка і дакладна, каб і фарбы не памерзлі, дый самому не застудзіцца. А галоўнае — у такіх надзвычайных умовах перадаць на палатне багацце ды тонкія нюансы белага колеру.

Мне пашчасціла назіраць, як пісалі зіму на Глыбоччыне мастакі суполкі "Пагоня" перад самым Новым 2000 годам. Гэта было рамантычнае падарожжа ў белы снег. Мастакі чарговым разам асэнсоўвалі філасофскія погляды Язэпа Драздовіча, якому і быў прысвечаны гэты пленэр, а таксама спасцігалі таямніцы ягонага светаўспрымання, ягоны касмічны сусвет. Што да мяне, то я адкрывала для сябе людзей гэтага краю, якія спавядаюць у сваім жыцці ідэалы Бацькаўшчыны. Шчыра кажучы, раней мне не даводзілася чуць пра такую з'яву, як зімовы пленэр. Аказалася, што і з мастакоў таксама ніхто не мог узгадаць нешта падобнае. Для ўсіх гэта было навіною.

Удзельнікі пленэру хадзілі сцежкамі Драздовіча, нібыта ўпершыню, пакідаючы адбіткі сваіх слядоў на бялюткім снезе, наноў адкрываючы для сябе вялікага мастака. І пры гэтым уяўлялася, як дзядзька Язэп з саначкамі, на якіх перавозіў мастакоўскі рыштунак, ідзе, пераносіцца ад аднае вёскі да другой, ад двара да двара ў пошуках кавалка хлеба. Згадвалася, як яны назіралі зімовае зорнае неба, пад якім нарадзіўся і жыў мастак, любаваліся хараством заснежанай Галубіцкай пушчы, рэчкі Мнюты, азёрамі — усім тым, што памятае яшчэ Язэпа Драздовіча. Пунькі — бацькоўскі куток мастака. Маляўнічая мясціна, якую да гэтае пары не кранула цывілізацыя. Тут, сярод пушчы, жыве адзінокі чалавек — Артур. Разам з ім розная жыўнасць: конь, карова, свінні, куры, тры сабакі ды каты. Кароўка, як надыдзе час, самапасам ідзе да стажка з сенам. А парсючкі ўлетку нагульваюць сала ў Галубіцкай пушчы. Няма тут ані электрычнасці, ані радыё, ані газетаў. Для творцы гэта проста райскі куточак, нешта сапраўды незабыўнае. Пісаць, маляваць тут — вялікая асалода. У часе пленэру ўсім чамусьці летуцелася пра дзяцінства. Зіма і дзяцінства — нешта непарыўнае, што жыве ў кожным з нас. Асабліва ж яскравымі былі ўражанні Люсі Кальмаевай, якая воляю лёсу апынулася ў Нідэрландах, краіне, дзе няма зімы, таму гэты пленэр быў ёй падарункам, раптоўным вяртаннем у дзяцінства.

На думку мастакоў зімовы пленэр — гэта ачышчэнне палітры праз нацыянальны белы колер. Колер, што спадарожнічае беларусу спрадвеку і якога так багата зімою. Зімовы пленэр — гэта яшчэ еднасць і салідарнасць, гэта вогнішча, якога не распаліш у пушчы летам, гэта засмажаныя скваркі з бульбаю, духмяная гарбата на беларускіх зёлках. Зімовы пленэр — гэта і ёсць жыццё!

Удзельнікі пленэру — а сярод іх шмат сяброў ТБМ — былі для мяне каштоўнаю знаходкай. Разам мы ладзілі сустрэчы з мясцовай інтэлігенцыяй ды школьнікамі, размаўлялі з простымі людзьмі. І прыемна, што скрозь, дзе б мы ні былі - у бібліятэцы ці краме, музычнай школцы ці дзіцячым садку, на турыстычнай базе або кірмашы — паўсюль між намі панавала сумоўе. У Падсвіллі мы сустрэлі сваіх аднадумцаў. Яны самаахвярна працуюць у розных навучальных ды культурна-асветных установах, сеюць зярняткі беларускай свядомасці сярод мясцовых дзетак ды моладзі. Таленавітыя, разумныя, цудоўныя людзі, шчырыя беларусы, але ж, на вялікі жаль, менавіта яны застаюцца сёння незапатрабаванымі ў нашай незалежнай Беларусі. Спадзяюся, што аб'яднанне ў суполку ТБМ зробіць іхняе жыццё больш цікавым, змястоўным ды выніковым.

Варта было б узгадаць, што разам з мастакамі на пленэры жылі і працавалі дзеці: навучэнцы Пастаўскай і Верхнядзвінскай мастацкіх школаў, а таксама юныя мастакі з Віцебска, Полацка, Шаркаўшчыны — разам 12 чалавек. Для іх гэты пленэр стаў добрым і незабыўным урокам. Як слушна сказаў нехта з мастакоў, гады вучобы не здолеюць замяніць хоць бы і аднагаадзінага, але ж жывога кантакту з сапраўднымі майстрамі жывапісу ды графікі. А калі яшчэ дадаць, што на цэлы тыдзень дзеткі, мо ўпершыню ў сваім жыцці, трапілі ў атмасферу натуральнай беларускай мовы, то можна запэўніцца, што пленэр стаў для іх не толькі ўрокам жывапісу, а і сапраўдным урокам спасціжэння роднай мовы.

А якраз перад Новым годам па старым стылі на сакратарыяце ТБМ мы прымалі ў свае шэрагі новых сяброў. Сярод іншых была і Падсвільская суполка. Маю надзею, што ў хуткім часе да ТБМ таксама далучыцца і тая моладзь, з якой разам бавілі час на 4-ым пленэры, які традыцыйна, з году ў год ладзяць дзве грамадскія арганізацыі — Культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча і мастацкая суполка "Пагоня". 16 лютага ў Віцебску выставяць свае творы вучні мастацкіх школаў, што былі на пленэры, а напрыканцы месяца мінчукі пабачаць зімовыя краявіды, створаныя мастакамі "Пагоні".

**Ірына МАРАЧКІНА,**
**адказны сакратар ТБМ імя Францыска Скарыны**



*Удзельнікі пленэру.*

*Фота Ул. ВАСЮКА*

---

# Здраўнёва адбудоўваецца

Мінула пяць гадоў, як згарэў дом-музей Ільі Рэпіна ў Здраўнёве, што пад Віцебскам. Нарэшце распачата будаўніцтва новага музейнага мемарыяла. За кошт бюджэтных сродкаў узведзены драўляны каркас, які па праекце падобны на той дом, у якім напрыканцы XIX стагоддзя жыў і тварыў Рэпін. Гэта будзе сапраўды паўнавартасны мемарыяльны комплекс — з паркавымі алеямі, садам, газонамі, сажалкай, гаспадарчымі пабудовамі.

Мяркуецца, што адкрыццё музея адбудзецца ўжо гэтым летам.

**Святлана ГУК**

## Час Ражства

17 студзеня ў Гомелі быў урачыста адчынены філіял Веткаўскага музея народнай творчасці. На яго адкрыцці выступіла дырэктар Веткаўскага музея Галіна Нячаева.

— ...Кожнае дзіця з'яўляецца на свет нечакана, і вось гэтае нашае дзіця — філіял — з'явілася на свет нечакана, быццам бы і пялёнкі ў яго ўжо ёсць, а на дзіцячае харчаванне невядома ці знойдзецца што... Мы ў гэтым годзе хочам зрабіць чатыры выставы.

Слова было прадстаўлена і "хроснаму бацьку" філіяла, старшыні Гомельскага гарвыканкама Аляксандру Якабсону:

— Усе гамяльчане, не толькі жыхары Гомеля, але і вобласці, даўно ведаюць пра Веткаўскі музей народнай творчасці. Любую дэлегацыю, якая прыязджала ў Светлагорск, калі я там працаваў, мы запрашалі ў Ветку. І гэтак, я ведаю, робяць многія ў гарадах і вёсках нашай вобласці. Таму што Веткаўскі музей — гэта сапраўды жамчужына нашай вобласці. Гэтаму музею могуць пазайздросціць самыя значныя музеі свету. І ўсе, хто там пабыў, усе сапраўды захапляюцца... Нарэшце мы знайшлі магчымасць, каб жыхары і госці горада маглі ўбачыць выставы Веткаўскага музея ў Гомелі. Я лічу, тое, што мы адкрываем музейную ўстанову — гэта вялікая перамога і дасягненне для горада. І яна будзе працаваць на аўтарытэт нашае культуры.

●

Першая выстава філіяла прысвечана часу жніва. Назва яе — "Час Меж Прачыстых. Успамін". Большасць ікон, якія ёсць на выставе — гэта іконы стараабрадцаў з вобразам Маці Божай Марыі.

Шмат якія рэчы расказваюць аб часе Прачыстым: сярпы, што нагадваюць пра смерць, сявалкі, напоўненыя зернем (за тры дні да Успення, за тры дні пасля яго сеялі азіміну), белыя жаночыя кашулі, — здаецца, гэта самі жнейкі выйшлі ў поле, саламяныя птушкі і лялькі, дажынкавы вянок, сплецены з жытніх каласоў і кветак, апошні дажынкавы сноп у жаночым уборы. Аб часе Прачыстым нагадваюць тэксты старадаўніх кніг, у якіх неадночы параўноўваецца Маці Божая з зямлёй, з хлебам, з коласам, а таксама — тэксты з апісаннем жніўных абрадаў. А вось і "бароды" — ахвяраванні Богу, якія рабілі з жыта ў канцы жніва і пакідалі ў полі — у выглядзе крыжа, дзявочай касы, ці проста — некалькі жытнёвых каласоў, перавязаных зверху чырвонай ніткай.

Адлік часу на выставе пачынаецца з Ражства, калі валачобнікі — пасланцы ад Бога — словамі калядных песень засявалі-стваралі будучае, часу, калі ў вёсках рабілі "Свячу".

Магічны час першых дзён новага года, час засявання пераклікаецца з часам "родаў" нівы — жніва, часам Меж Прачыстых. Пры дапамозе цудоўнага сродку перамяшчэння — успаміну — трапляеш у Час Ражства.

Час Меж Прачыстых — час Ражства паміж нараджэннем і смерцю, паміж людзьмі і Богам, калі разломваеш хлеб — самае чыстае, палітае самым большым потам. Хлеб, аб якім просіш штодзённа. За які дзякуеш.

**Л. РАМАНАВА**

## Пушкінскі мацярык

Напрыканцы леташняга кастрычніка ў Брэсцкім дзяржуніверсітэце імя А. Пушкіна адбылася навуковая канферэнцыя "Я лиру посвятил народу своему...", прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння паэта. І вось ужо з друкарні ВНУ выйшаў даволі ладны томік навуковых матэрыялаў. Напачатку трэба сказаць, што такой аператыўнасці універсітэцкіх выдаўцоў трэба па-добраму пазайздросціць.

Матэрыялы ў зборніку скампанаваны ў пяць раздзелаў.

Асаблівую цікавасць як для саміх літаратуразнаўцаў, так і для настаўнікаў, студэнтаў, проста аматараў пушкінскага радка ўяўляюць даследаванні творчых узаемасувязяў А. Пушкіна і А. Міцкевіча, А. Абуховіча, У. Сыракомлі, М. Гарэцкага... Нават з гэтага пераліку бачна, наколькі вялікі мацярык пушкінскай паэзіі і прозы, які ягоным нашчадкам яшчэ трэба асвойваць і спасцігаць.

Неабходна дадаць, што сярод аўтараў — вучоныя з Мінска і Віцебска, Магілёва і Брэста, Ольштына (Польшча).

**Уладзімір ТАРАСЮК**

ТВОРЦА

# Ганаровы грамадзянін горада Дунайвараш...

**Выставы работ Яўгена Мікалаевіча Ціхановіча праходзілі ў шмат якіх гарадах нашай краіны і за мяжой. З часткай яго экслібрысаў маглі пазнаёміцца беларусы Кліўленда, а таксама чытачы часопіса "Полацак". Асобныя знакі экспанаваліся на Сусветнай выстаўцы ЭКСПО-70 у японскім горадзе Осака. Мастак — пастаянны ўдзельнік выставак на міжнародных кангрэсах экслібрысістаў...**

**Праглядваю шматлікія каталогі згаданых выстаў, чытаю кнігі водгукаў. Адам Мальдзіс: "Шматаблічная і шматфарбная выстава Яўгена Ціхановіча — гэта свята беларускай культуры. Здзіўляе і радуе шматграннасць яго культуры, яго літаратурны багаж, непаўторнае мастацкае бачанне роднай прыроды, старога і новага Мінска, навакольных мястэчак і вёсак. Новых поспехаў Вам!".**

**"Калі душа і сэрца мастака аддаецца свайму народу, Радзіме поўнасцю і без астатку — плён працы яго не можа не хваляваць", — піша Я. Саламевіч.**

**Сардэчна і шчыра адгукнуўся Сяргей Грахоўскі: "Дзякуй Вам, дарагі Яўген Мікалаевіч, за сустрэчу з нашымі слаўнымі папярэднікамі — волатамі духу беларускай зямлі. Нібыта пагаварыў з імі, адчуў іх сілу і веліч. Павадзілі Вы і па росных сцежках родных прастораў, пазнаёмілі з гераічнымі сынамі нашага народа. Выдатныя партрэты, пейзажы, а экслібрыс — цэлая гісторыя культуры народаў Еўропы і роднай зямлі".**

**Як бачым, да аўтара выдатных экслібрысаў прыйшло нарэшце шырокае прызнанне. Здавалася б, радуйся, твары, збірай плён рупнай працы. Але не ўсё так проста. Калі творчасць Я. Ціхановіча ў галіне экслібрыса перакінулася за межы нашай дзяржавы, то яму давялося пераадольваць перашкоды нашых шматлікіх "забараняльных" органаў і арганізацый (нават такіх, як Саюз мастакоў, Міністэрства культуры, АВіР, мытня, а адносна нядаўна і ЦК КПБ). Замест таго, каб спрыяць мастаку ў яго бескарыслівай працы па прапагандзе беларускага выяўленчага мастацтва за межамі краіны, яму забаранялі выезды на адкрыцці персанальных выстаў (нават у сацыялістычныя краіны). І гэта ў той час, калі былы СССР падпісаў Міжнародную канвенцыю аб кніжным знаку, які з'яўляецца прадметам міжнароднага абмену і пад ніякую забарону не падпадае.**

**Паказальны і такі факт: у 1972 годзе ў венгерскім горадзе Дунайвараш адбылася выстаўка экслібрысаў Я. Ціхановіча. Пасля яе закрыцця беларускі мастак падараваў гораду ўсе работы. Калекцыя трапіла ў экспазіцыю карціннай галерэі. З гэтай нагоды гарсавет г. Дунайвараш абраў Яўгена Мікалаевіча сваім ганаровым грамадзянінам і выслаў мастаку на адрас савецка-венгерскага таварыства грамату і медаль, а таксама сто каталогаў. Але ганаровы грамадзянін Дунайвараша так і не пабачыў слыннага венгерскага горада. Яго проста не пусцілі ў замежную паездку. Шматлікія звароты ў таварыства дружбы, у Саюз мастакоў, у ЦК КПБ не далі ніякіх вынікаў...**

**В. ШМАТАЎ,**
**доктар мастацтвазнаўства**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Шмат цікавага перажыў за свой доўгі век мастак Я. Ціхановіч. Быў не толькі пасіўным сведкам, але і актыўным удзельнікам падзей, з якіх, як падмурак з цаглін, і складалася гісторыя народа, гісторыя дзяржавы. Трагічная, супярэчлівая, неадназначная... "ЛіМ" прапануе ўвазе чытача ўспаміны Яўгена Мікалаевіча.

# Пісьмо Сталіну

У 1935 годзе мне ўдалося перамагчы на конкурсе эскізаў па мастацкім афармленні "Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну". Мастакі прадставілі розныя варыянты. Прапаноўвалі пісьмо ў выглядзе кнігі з цвёрдай вокладкай. Хтосьці збіраўся выканаць тэкст елізавецінскім шрыфтам, хтосьці хацеў выкарыстаць папірус з падвескай пячаткай... Я прапанаваў беларускі куфар, інкруставаны рознымі пародамі дрэва з выкарыстаннем нацыянальнага арнаменту. На чатырох баках куфра размясціў малюнкі на тэмы: "Беларусь пагранічная", "Уручэнне калгасам акта на вечнае карыстанне зямлёй", "Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат", "Народны танец "Лявоніха". На крышцы куфра — ордэн Леніна, замок — са звонам. А само пісьмо павінна было вышывацца на льняным палатне крыжыкам.

Не мы першыя пачалі пісаць оды Сталіну. Ішло ўсё з Сярэдняй Азіі, дзе актыўнічалі акыны Джамбул і Сулейман Стальскі. Пісьмы ў вершах выражалі адданасць "вялікаму правадыру ўсіх народаў таварышу Сталіну..."

У той час сакратаром ЦК КПБ быў Гікала. Ён аператыўна арганізаваў калектыў з ліку лепшых пісьменнікаў рэспублікі. Былі сярод іх Купала, Колас, Глебка, Броўка, Александровіч, Харык і іншыя. Узначаліў гэты калектыў Андрэй Александровіч. Не ведаю, наколькі актыўна ў абязлічанай "творчасці" ўдзельнічаў Купала. Думаю, наўрад ці шчыраваў, але адмовіцца было немагчыма. Час ад часу збіралі паэтаў на дачы ЦК. Заслухвалі чарговую главу пісьма і адвозілі ўсіх у Мінск. На апошняй чытцы прыйшлося прысутнічаць і мне, каб дакладна ведаць, як афармляць пісьмо, на чым пры гэтым рабіць акцэнты. Адказнасць — найвялікшая, бо пісьмо пісалася ад імя ўсяго беларускага народа. Знешняе афармленне павінна быць нацыянальным, а змест — адлюстроўваць сацыялістычныя перамены нашага жыцця. У гэтым і заключалася сутнасць сацыялістычнага рэалізму.

Заключная чытка пісьма праходзіла ў альтанцы парку, на дачы ЦК, і закончылася банкетам, на якім было не меней за паўсотні чалавек. Гікала выступіў з вельмі цёплай прамовай і, падымаючы келіх за беларускі народ, закончыў здравіцай вялікаму Сталіну — самаму дарагому сябру Беларусі.

Я ведаў, што ўручыць Сталіну гэты куфар з пісьмом даручылі Ларысе Пампееўне Александроўскай. Калі яна пачала сваю прамову па-руску, Сталін папрасіў: "А ці не маглі б вы па-беларуску?" Александроўская хутка перайшла на родную мову, дый само пісьмо было на беларускай. Да таго ж ёй, народнай артыстцы Беларусі, так было лягчэй — гаварыць, не заглядваючы ў тэкст. Александроўская, высокая і надта прыгожая жанчына, пачынала сваю кар'еру на эстрадзе — выконвала беларускія народныя песні. Потым удзельнічала ў стварэнні Беларускага тэатра оперы і балета, выконвала ролі ў класічных рускіх операх, пазней — у беларускіх...

Праз пэўны час я бачыў пісьмо Сталіну (у куфры) у Маскоўскім музеі рэвалюцыі, пад шклом, без якіх-небудзь згадак аб тым, хто пісаў тэкст, хто афармляў яго, хто вышываў на палатне. Рабіў гэта "ўвесь беларускі народ". Менавіта пра гэта дзве гадзіны даводзіў мне загадчык аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КПБ Ткацэвіч. Маўляў, толькі народ, а не канкрэтныя асобы рухае мастацтва, робіць гісторыю...

# Забароненая карціна

Маю карціну "Прыезд Савецкай дэлегацыі на Парыжскую мірную канферэнцыю" забаранілі паказваць на выставах сакратар ЦК КПБ Іаўчук. На гэтым палатне — Молатаў, Вышынскі, Мануільскі (народны камісар замежных спраў Украіны), Кісялёў (наркам замежных спраў Беларусі), Генеральны пасол СССР у Злучаных Штатах Амерыкі Грамыка. Дэлегацыя крочыць па двары Люксембургскага палаца. Парыжане вітаюць савецкіх дыпламатаў апладысментамі, а шафёры іншых дэлегацый — аўтамабільнымі сігналамі.

Гэтай карцінай я хацеў адзначыць факт прыняцця БССР у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый. Сябры Выстаўкама віншавалі мяне з поспехам: у складанай партрэтнай кампазіцыі здолеў раскрыць гэтую тэму. Аднак пасля забароны радасць поспеху імгненна знікла. Трэба было штосьці рабіць. Мастакі параілі напісаць ліст да Молатава, прыкладаўшы рэпрадукцыю карціны. У ветлівай форме я прасіў Вячаслава Міхайлавіча дапамагчы разабрацца, у чым прычына адхілення маёй карціны ад паказу на выставах. Неўзабаве прыязджае з Масквы загадчык аддзела агітацыі і прапаганды ЦК ВКП(б) Кісялёў. Карціну на той час знялі з экспазіцыі і занеслі ў паўсклеп Тэатра оперы і балета. Пасля разгляду палатна Кісялёў сказаў: "Ваша карціна мне падабаецца. Зроблена прафесійна, адпавядае факту... Карціну можна паказваць і на іншых выставах, але ці не будзе пры гэтым парушана аўтарытэт таварыша Іаўчука.



Згадзіцеся, указанне сакратара ЦК КПБ трэба выконваць. Вы яшчэ малады чалавек, у вас наперадзе яшчэ шмат прац..."

Вось так карціна была забракавана. Амаль трохметровае палатно ў рулоне знеслі ў запаснікі Музея выяўленчага мастацтва. З таго часу прайшло 50 гадоў. Карціна была паказана ў Палацы мастацтваў толькі на маё 85-годдзе.

**Яўген ЦІХАНОВІЧ**

***Група беларускіх журналістаў, супрацоўнікаў дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, пабывала на стажыроўцы ў Боне. Паездка арганізавана Міжнароднымі адукацыйнымі цэнтрамі (IBB) Мінска і Дортмунда па лініі праграмы “Трансформ” федэральнага ўрада Германіі. Нататкі нашага карэспандэнта — пра ўражанні ад пабачанага, пра сустрэчы, пра новых сяброў — мы і прапануем вашай увазе.***

# Бон падчас пярэбараў

## Дом гісторыі

На вулках маленькага Бона, які немцы называюць “федэральнай вёскай”, жыхары вітаюць кожнага сустрэчнага. У 900-тысячным, утрая большым Кёльне толькі ветліва ўсміхаюцца ў транспарце.

Адносна таго, чаму Бон пасля вайны выбралі сталіцай, існуе некалькі версій. Адна сцвярджае, нібыта немцы, каб ачысціцца ад каросты нацызму і маніі велічы, знарок выбралі пад сталіцу — замест падзеленага і таму страчанага ў гэтай якасці Берліна — самы звычайны, заштатны гарадок. Другая прыпісвае выбар галоўнага горада федэрацыі аўтарытэту “бацькі еўрапейскай дэмакратыі” Адэнаўэра, які адсюль родам. Але ніводная з версій не існуе як агульнапрынятая.

Як насельніцтва Германіі выдзіралася з нацыянальнага крызісу, з прорвы, у якую абрынуў яе Гітлер, выдатна паказвае музей сучаснай гісторыі, названы Домам гісторыі *(Haus Geschichte)*. Гэты музей не падобны на іншыя, дзе дакументы часу размешчаны на паліцах і стэндах. Тут таксама ёсць фатаграфіі і рэчыўныя экспанаты, але асноўную сэнсавую нагрузку нясе відэа- і аўдыётэхніка. На шматлікіх маніторах, адпаведна тэме, мільгаюць дакументальныя кадры. Чатыры маніторы размешчаны на пачатку экспазіцыі, яны паказваюць, што засталося ў Германіі пасля паходу “нах Остэн” ад гарадоў, дарог, цэркваў, прыроды. Не замоўчаны і ахвяры канцэнтрацыйных лагераў. Адзін з манітораў размешчаны прама ў ваганетцы пасярод цэглы (цудоўны сімвал адраджэння!). Непадалёку плакат таго часу: *“Alle Handt fur den Aufbau!”* — “Усе рукі на будоўлю!”

Да 49-га года панавалі голад і галеча. “Мы не хочам калорый! Мы хочам хлеба!” — крычма крычыць яшчэ адзін плакат. Воблік часу ствараецца рэчамі, якія сведчаць самі за сябе: стары веласіпед з перакінутым падзёртым дыванам, дзіцячая бялізна, жаночая брошка, пратэз рукі... Далей размешчаны першыя тэатры на экспарт: адзенне, лекі, прыгожы посуд, пішучая машынка. Шмат фотапартрэтаў. Пасляваенныя лідэры ў поўны рост (— свае, амерыканскія, савецкія), парламент і будка для выбараў — усё суправаджаецца запісамі прамоў, абрыўкамі фраз, гулам трыбун. Можна праслухаць варыянты дзяржаўнага гімна. Дастаткова зняць спецыяльную трубку-слухаўку — і пачуеш папулярныя мелодыі таго часу. Паказана зараджэнне жаночага руху і маладзёжных субкультур. Цэлая зала прысвечана супрацьстаянню з Усходняй Германіяй. Каля фрагмента берлінскай сцяны вісяць два світэры: Коля і Гарбачова.

З гэтага жывога агучанага дома выходзіш усхваляваны, з памякчэлым сэрцам, з адчуваннем, што чалавек чалавека заўсёды ў прынцыпе здольны зразумець, як і народы здольныя паразумецца і забыць былую варожасць.

У музеі людна не столькі з-за турыстаў, колькі з-за саміх немцаў. Каб патрапіць сюды, групы школьнікаў і студэнтаў запісваюцца ў чаргу і чакаюць па тры месяцы.

## Чаканне Калядаў

Навагодняя ёлка на фоне восеньскага пейзажу — нязвыклае для нашага вока відовішча. Як бы не стае прыроднага антуражу — марозу, сяйва сняжынак ці лёгкай завеі. Але надыход Новага года — хай сабе і з многімі нулямі — у еўрапейскіх краінах перакрываўся святкаваннем Калядаў.

Падрыхтоўка да свята Хрыстовага Нараджэння пачынаецца ў Германіі недзе за месяц. Першымі ўпрыгожваюцца вітрыны і ўваходы магазінаў, так гандляры спалучаюць прыемнае з карысным, традыцыю з патрэбамі рэкламы. Бюргеры таксама не шкадуюць грошай на калядную сімволіку, выяўляючы пры гэтым зайздросны густ і вынаходлівасць.

Кожная сям’я лічыць сваім абавязкам спрычыніцца да ўсеагульнай падрыхтоўкі, засведчыць прыхільнасць да старажытнага абраду. У вокнах выстаўляюцца кампазіцыі з сямі ці дванаццаці свечак, вывешваюцца вянкі з яловых лапак, упрыгожаныя стужкамі, тамсям у дворыках віднеюцца навагоднія ёлкі з ліхтарыкамі. Эстэтычная фантазія немцаў не мае межаў: упрыгожваюцца балконы, ганкі, дзверы, падваконні, вечназялёныя дрэвы ля ўваходаў, вывешваюцца гірлянды ўпоперак вузкіх вуліц. У адным з адкрытых двароў мы любаваліся нават каталіцкімі ясельками з лялькай-дзіцёнкам.

Існуе сапраўдная святочная індустрыя: на кожным кроку можна набыць штучныя і жывыя ёлкі, зоркі, выявы анёлкаў, шкляныя шары і да т. п. Мноства бліскучай мішуры вабіць вока і запрашае да пакупкі. У святочным асартыменце, несумненна, на першым месцы свечкі: ад звычайных круглых плошчак, што выкарыстоўваюцца ў мясцовых цэрквах, да безлічы дэкаратыўных размаляваных вырабаў “для душы” — квадратных і круглых, пахкіх і не, сабраных у наборы і выстаўленых паасобку, вісячых у спецыяльных шкляных колбачках і стаячых у не менш прыгожых падсвечніках.

Я звярнула ўвагу на сімвал, вядомы нам па першадруках Скарыны: пасўюць абыгрываецца сонца, злітае з маладзіком. Папулярныя таксама ёлачныя цацкі, вытачаныя з дрэва і зробленыя з саломкі. Саламяным я проста пазайздросціла і доўга іх вывучала, стараючыся запомніць лік промнікаў — хай бы нашы майстры асвоілі і пусцілі ў продаж!

Да свята гандляры паніжаюць цэны і выстаўляюць таннейшы тавар проста на вуліцы. Працуюць кірмашы ўсемагчымай, патрэбнай і не патрэбнай у гаспадарцы драбязы: ад вядзерцаў пад шампанскае і тыбецкіх званочкаў да лялек, якія надзяваюцца на руку і з якімі можна разыгрываць спектаклі. Там можна пакаштаваць цёплага глінтвейну і правесці час з сябрамі за куфлем піва. У меншых свой занятак: акрамя вялізнай ёлкі, у цэнтры горада ўстаноўлена карусель з конікамі.

Малых дзяцей у нямецкіх гарадах, як бобу. Іх вядуць за руку, нясуць перад сабою ля грудзей, вязуць па двое ў калясках і ў спецыяльных будачках — прычэпах да веласіпедаў. Маладая жанчына, абчапляная дзецьмі, — звычайная з’ява. Можна назіраць такую карціну: матуля нетаропка заводзіць у аўтобус адно дзіця, а потым вяртаецца, каб укаціць у салон калясачку з другім. І ніякіх прыкметаў нервознасці!

Нямала сустракаецца змешаных параў, дзе з афрыканцамі альбо арабамі ідуць белыя жанчыны. Прычым дзеці-мешанцы адрозніваюцца нейкай асаблівай мілатой і грацыяй.

Але вернемся да Калядаў. Чырвоныя каўпакі надзяюць вадзіцелі трамваяў. На галоўным вакзале Санта-Клаўсы і дзяўчаты з анёльскімі крылцамі раздаюць падарункі. (Маленькі вазон у гаршчэчку дастаўся і мне). Своеасаблівай рэпетыцыяй Калядаў было ўшанаванне дня Міколы-ўгодніка. “Мікалайка” ў Германіі любімы, ягоны прыход суправаджаецца адорваннем сваіх і чужых. Шакаладных Дзядоў Марозаў у доме, дзе мы пасяліліся, паставілі пад дзверы не толькі студэнтам, што там пастаянна жывуць, але і нам, журналістам з малавядомай у свеце Беларусі. Многія дзяржаўныя ўстановы і грамадскія таварыствы праводзяць у гэтыя дні дабрачынныя вечарыны, куды звычайна запрашаюцца бацькі разам з дзецьмі. Дарослыя вядуць бяседы і таньчаць (хаця моцных напояў звычайна не падаецца), а малыя збіраюцца ў купкі і гуляюць у свае дзіцячыя гульні.

Вечарамі на плошчах робіцца людна, шумнавата і весела. Народ перакусвае пад навесамі і ў шматлікіх кавярнях, дзеліцца навінамі, купляе сувеніры, выпечку, танную садавіну і гародніну і проста адпачывае. У адзін з выхадных дзён мне давялося назіраць у цэнтры Бона прадстаўленне батлейкі. Самай сапраўднай, “нашай” батлейкі з Царом Ірадам! Перадсвяточная мітусня не дасягае адно храмаў: у будзень, калі ні зазірнеш, там цішыня і бязлюддзе...

## Пярэбары

Дзве тысячы гадоў таму назад Рэйн быў натуральнай паўночна-заходняй мяжой Рымскай імперыі. (Рэшткі той эпохі дэманструе антычны музей у Кёльне). Рымляне першнаперш праклалі дарогу, каб звязаць крэпасці ўздоўж Рэйна, — яна захавалася па сённяшні дзень. 1200 год таму ў Бон была перанесена рэзідэнцыя епіскапа. Бліжэй да нашага часу горад 20 год акупавалі французы, потым ім валодаў прускі кароль. Менавіта прусакі ў 1818 годзе ў рэзідэнцыі курфюрста заснавалі славуты зараз Бонскі універсітэт, дзе 14 працэнтаў навучэнцаў — замежнікі.





Пра ўсё гэта нам расказвае экскурсавод у якасці гістарычнага ўступу, бо тэма нашай экскурсіі — пярэбары, вялікі пераезд Бундэстага і федэральнага ўрада з Бона ў Берлін.

Што Бон — сталіца часовая, вядома было адпачатку. Доўгі час парламент праводзіў паседжанні ў актавай зале педагагічнага інстытута. Вядучыя партыі месціліся хто дзе, офіс SPD называлі баракам. Так працягвалася да 70-х гадоў, покуль канцлер Вілі Брандт не заявіў, што Бундэстаг і міністэрствы павінны мець пастаянныя будынкі. Так часовае было ўзаконена і набыло адпаведны рангу статус.

Рашэнне аб пераносе сталіцы было прынята ў 1991 г. малой большасцю парламента. Супраць выступалі дэпутаты з паўднёвых зямель, гэта значыць каталікі, а таксама моладзь. Крытыкуюць і саму працэдуру галасавання. Тым не менш, факт ёсць факт. Сёння, калі ў Берлін перабралася 9 з 15-ці галіновых міністэрстваў, бонцы пачалі ўзважваць не толькі мінусы свайго становішча (бо страчана 18 тысяч рабочых месцаў), але і плюсы. На развіццё горада — мабыць, у якасці кампенсацыі — адпушчаны мільярдныя сродкі. 600 млн ДМ укладзены ў стварэнне навукова-інвестыцыйнага цэнтра “Цэзар”, дзе будуць павышаць кваліфікацыю выпускнікі вышэйшай школы і праводзяцца міжнародныя даследаванні.

У горадзе застаюцца спецыяльныя — у асноўным экалагічныя — арганізацыі ААН. Усе яны месцяцца ў адным замку, адкуль мусіла калісьці з’ехаць міністэрства фінансаў, і вызвалены ад платы за арэнду. Плануецца размясціць 150 няўрадавых і міжнародных арганізацый, а таксама 20 камітэтаў, якія пераедуць у зваротным напрамку — з Берліна ў Бон. Вызваленых плошчаў хопіць для ўсіх. У Бундэстагу, напрыклад, размесціцца кангрэс-цэнтр. Вялікая колькасць гасцініц па суседстве робіць яго зручным для міжнародных канферэнцый ААН, куды запрашаюць да 5 тысяч удзельнікаў.

Першым пакінула Бон ведамства канцлера. Для чыноўнікаў, што не жадаюць пакідаць абжыты ціхі гарадок, створана абменная біржа. Насельніцтва паменее на 10 тысяч дыпламатычных супрацоўнікаў. Са 180-ці пасольстваў перабралася пакуль што толькі 15, у тым ліку амерыканскае — цэлы гарадок з гандлёвымі цэнтрамі і школамі. Часткова яго, як і штаб-кватэры партый, набыў “Тэлеком”, манапаліст у сферы камунікацый. Некаторыя афрыканскія прадстаўніцтвы не маюць сродкаў на пераезд (а ён усім абыдзецца ў капеечку) і застаюцца на старым месцы. Беларусь, хоць і небагатая, а знайшла...

Бон перастане быць адміністрацыйным, але застанецца культурным цэнтрам Германіі. Яго тэатральныя фестывалі збіраюць па 50 тысяч гледачоў з усёй Еўропы. Прыемна было пачуць ад выпадковай субяседніцы, перасяленкі з СССР, што яна пабывала на спектаклі мінчанкі Алены Паповай, ён ішоў з вялікім поспехам. Вядомы ў музычным свеце фестывалі імя Бетховена (ураджэнца Бона), якія спалучаюцца з навуковымі сімпозіумамі.

У горадзе над Рэйнам, акаймаваным маляўнічымі ўзгоркамі, ёсць таксама перадумовы для развіцця турыстычнага бізнесу. Несумненна, яны будуць рэалізаваны. Так што пярэбары, з аднаго боку — стрэс і расходы, а з другога — ратунак ад застою, стымул для далейшага росту.

## Анабергхаус

Большасць нямецкіх гарадоў з’яўляецца гістарычным аб’яднаннем некалькіх паселішчаў. У аснове Бона мо сорак вёсак. Тыповая назва транспартнага прыпынку — Попельсдорф, дзе *Dorf* і азначае “вёска”.

Бад Годэсберг — адзін з прэстыжных раёнаў былой сталіцы, дзе размяшчалася савецкае, а потым расійскае дыпламатычнае ведамства. У напрамку гэтага раёна мы ехалі з гарадскога вакзала ў свой інтэрнат. Увогуле ж прыстаўка “Бад” (ад *baden* — “купацца”) азначае наяўнасць паблізу мінеральных крыніц.

Некаторым з нас ужо даводзілася жыць у вялікім доме на версе гары, названай у гонар невядомай Ганны. Да яго вядзе вузкая выгінастая дарога, амаль серпанцін, куды гарадскія аўтобусы, вядома ж, не дабіраюцца. Гара зарасла пракаветным лесам, дзе водзіцца дзіч і размешчана мясцовая лясная гаспадарка. “Схадзіць да ласёў” азначала для нас прагулку ў бок нервовай клінікі, куды вяла малапрыкметная з-за лісця сцежка. У прасторных вальерах, акрамя ласёў, жывуць казулі і дзікі. І хоць таблічка забараняе карміць звяроў, але вельмі цяжка адмовіцца ад задавальнення пакарміць ласіху альбо пужлівых казулянят хлебам з рукі.

*(Працяг на стар. 14—15)*

нок, кожная афіцыйная папера, кожны візіт да чынавенства становіцца стрэсам. Вось чаму Валерыя, якая свабодна валодала англійскай мовай, шмат увагі ўдзяліла нямецкай. Давялося памяняць прафесію: у рамках мэтавага праекта для перасяленак яна навучалася турыстычнаму бізнесу.

— Што са станоўчага тут асабліва кідаецца ў вочы? — спыталі мы госцю.

— Павага да любой працы, да асобы як такой. Мяне ніводнага разу не зняважылі як замежніцу.

Калі мы развіталіся, нехта з групы зазначыў: “Яна абавязкова паднімецца”. А я па-добраму падзівілася людзям, якія здольны перапісаць сваё жыццё, як чарнавік, і ўсё пачаць спачатку.

## Бон — Мінск

Кантакты паміж Бонам і Мінскам завязаліся з 89-га года, калі мэрам нашай сталіцы быў А. Герасіменка. Першапачатковы імпульс зыходзіў з нямецкага боку і быў выкліканы неабходнасцю дапамогі чарнобыльскім дзецям. У 93-м падпісана партнёрскае пагадненне (што Бон пры сваіх шматлікіх сувязях раней не практыкаваў).

Можна выдзеліць тры асноўныя сферы ўзаемадзеяння: культура, абмен экспертамі і маладзёжнымі групамі, камунальная гаспадарка (горадабудаўніцтва, транспарт, медыцына, статыстыка і г. д.). Сродкі на праекты перш выдзяляла знешнепалітычнае ведамства Германіі.

У 95-м годзе быў заснаваны клуб грамадзянскіх ініцыятыў, які існуе па сёння. На самай справе клубаў два — бонскі і мінскі. Бонскі ўзначальвае спадар Ульрых, уваходзяць у клуб чыноўнікі, якія па роду дзейнасці маюць дачыненні да Беларусі, а таксама ўраджэнцы нашай краіны і тыя, хто звязаны з ёю сяброўскімі сувязямі. “У нас працаваць трэба, а не толькі прысутнічаць. “Вясельных генералаў” і выключыць можам”, — падкрэсліў сп. Ульрых.

Пра мінскі клуб звестак мала, гэта суполка закрытая і не вельмі вядомая. Кажуць, каб паступіць туды, патрабуецца вялікі ўзнос у дойчмарках.

За ўвесь гэты час адбылося шмат абменаў групамі навукоўцаў, урачоў, мастакоў, журналістаў. Раз на год дзеці з Беларусі запрашаюцца на аздараўленчы адпачынак. Завязаліся кантакты паміж прафсаюзамі, жаночымі і маладзёжнымі арганізацыямі.

Паралельна з кантактамі муніцыпалітэтаў развіваюцца эканамічныя сувязі. Заключана 13 партнёрскіх пагадненняў. У Мінскім ІВВ адкрыта прадстаўніцтва гандлёва-прамысловай палаты Бона, праводзяцца інфармацыйныя і кансультацыйныя мерапрыемствы для нашых прадпрымальнікаў дзеля выхаду на нямецкі рынак. Значны поспех напаткаў Мінскую скура-галантарэйную фабрыку, чыя прадукцыя мае попыт у Германіі.

Зараз у сувязі з пагаршэннем палітычнага лімату ўмовы для супрацоўніцтва не назавеш аптымальнымі. Паколькі на афіцыйным узроўні сувязі замарожаны, то асаблівае значэнне набываюць партнёрскія адносіны гарадоў, прадпрыемстваў, грамадскіх арганізацый.

Пра ўсё гэта апавядае нам начальнік пратакольнага аддзела бонскай мэрыі, актывістка вышэйназванага клуба Марыя Хон-Бергхорн. Яна неаднойчы пабывала ў Мінску і можа параўноўваць “тэмпературу” міжчалавечых адносін у сябе дома і ў нас. “Халадок паміж людзьмі”, страта маральных каштоўнасцей не ўяўляюцца сп. Марыі станоўчымі з’явамі сучаснага жыцця.

На чарговым кангрэсе нямецкіх абшчын і парадснёных гарадоў, якія маюць сувязі з Еўропай, будзе абмеркавана ініцыятыва горада Эслінгена. Устрывожаны заўчаснай смерцю Карпенкі і знікненнем Ганчара — былых кіраўнікоў Маладзечна, Эслінген заклікае парваць усялякія кантакты з афіцыйнымі ўладамі параднёных гарадоў. Такая прапанова не ўсімі падтрымліваецца. “Дапамагаць Беларусі — не значыць дапамагаць рэжыму”, — лічаць сябры нашай краіны. Калі беларуская грамадскасць страціць і тую невялікую фортку ў Еўропу, якая пакуль што адкрыта, Еўропе ад гэтага лепш не стане. Іншая справа — **каго** падтрымліваць. Немцам не так проста разабрацца ў нашых рэаліях — расстаноўцы сіл на палітычнай арэне, нацыянальных настроях, фондах, партыях. (Дзіўныя меркаванні, бывае, выказваюць нават спецыялісты, у чым мы ўпэўніліся падчас асобных сустрэч). Але там ужо зразумелі, што за шыльдай сацыялдэмакратыі, хрысціянскай дэмакратыі і іншых аб’яднанняў падчас нічога няма, акрамя амбіцый лідэра. Так што няхай народная дыпламатыя жыве і дае свой плён.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

ПРЭМ'ЕРЫ

# “Маленькі чалавек” — люстэрка стагоддзя

Яшчэ за савецкім часам у Расіі было праведзена грамадскае апытанне па тэме “якія кнігі чытаюць людзі”. Вынікі апытання засведчылі, што інтэлектуальная эліта і людзі паспалітыя маюць розныя густы. Нібыта і не навіна, але шмат хто быў здзіўлены, што ў вачах “звычайнага” чытача Пушкін ці Гогаль моцна саступаюць якому-небудзь Юльяну Сямёнаву. Геніі і карыфеі расійскага пісьменства нават не ўвайшлі ў першую дзесятку. З гэтае прычыны на старонках культурніцкай прэсы ўзняўся лямант пра заняпад мараў і густу. Былі, аднак, і цвярозыя каментары. Адзін вядомы пісьменнік выказаўся ў тым сэнсе, што вялікая літаратура — гэта сонца, якое грэе здалёк, грэе ўсю зямлю. Але пры гэтым можа быць зімна ў хаце. І ёсць патрэба ў ладнай вязанцы дроў, каб растапіць печку. Такія вось “дровы” і пастаўляюць чытачу сучасныя пісьменнікі. Таму няма чаго здзіўляцца, што людзі ставяць на першае месца тое, з чым маюць справу штодня.

Што ж датычыць творчага асяроддзя, людзей, для якіх мастацтва — прафесія, дык для іх вялікія постаці мінуўшчыны — такія ж сучаснікі, як і драматург, які сёння прынёс у тэатр сваю новую п’есу.

На пачатку снежня на Беларускім тэлебачанні адбылася прэм’ера дакументальнага фільма рэжысёра Надзеі Гаркуновай “Несыграная роля”, прысвечанага заслужанаму артысту Беларусі Віктару Манаеву. А раней, напрыканцы мінулага года прагляд фільма адбыўся ў памяшканні Малой сцэны Купалаўскага тэатра. Такім чынам першымі гледачамі сталі калегі і сябры артыста, людзі тэатральнага і калятэатральнага свету.

Гэты фільм сваім жанрам нагадаў адзін цікавы твор Станіслава Лема — нізка рэцэнзій на неіснуючыя кнігі. Гэты незвычайны жанр пісьменнік патлумачыў так: ёсць сюжэты, якія наўрад ці стануць кнігамі (не знойдзецца часу на іх напісанне ці яшчэ што), але адмовіцца ад іх шкада. Часам сюжэт ужо сам па сабе твор мастацтва.

Гэты фільм пра ролю, якую марыць сыграць Віктар Манаеў. Кожная душа — могілкі нязздзейсненых намераў. А творчая біяграфія не ў малой ступені складаецца з нерэалізаваных ідэй. Тое, чаго мы прагнем, характарызуе нас не менш яскрава, чым тое, чаго мы здолелі дасягнуць. Віктар Манаеў хоча сыграць героя гогалеўскага “Шыняля” — маленькага чалавека ў вялікім горадзе, “вінцік” імперскай бюракратычнай машыны, жыве ўвасабленне самоты.

Назва “Несыграная роля” ўводзіць у зман. Бо ў фільме Манаеў якраз іграе Акакія Акакіевіча. Праўда, не на сцэне і не ў тым аб’ёме, як магло б быць у паўнавартаснай пастаноўцы. Але з фрагментаў ствараецца пераканаўчы вобраз гогалеўскага героя, і гогалеўскай эпохі. Гэта можа не зусім роля, але безумоўна заяўка на ролю. Віктару Манаеву ўжо даводзілася іграць “маленькага чалавека” — Мікіту Зносака ў купалаўскай п’есе “Тутэйшыя”. І гэты вопыт дапамагае яму лёгка ўвайсці ў новы вобраз. Зрэшты, і Зносак, і герой Гогаля гэта адзін і той жа чалавек, толькі ў розных гістарычных варунках. Акакій Акакіевіч жыў у часе, калі імперыя ўвасабляла сабою непахісны маналіт, а Зносак — у час крушэння імперыі і ліхаманкавай змены акупацыйных уладаў. Мне падалося, што ў новай ролі Манаева я нават інтанацыі памятаю па ролі мінулай. Акакій Акакіевіч гаварыў голасам Мікіты Зносака. Але, магчыма, мне гэта толькі падалося...

Фільм складаецца з трох па сутнасці самастойных сюжэтных ліній: гогалеўскі герой, сам Мікалай Васільевіч Гогаль і артыст Віктар Манаеў, які звярнуўся да вобраза, створанага Гогалем. Хоць і кажуць, што да якой бы тэмы, сюжэта ці вобраза ні звяртаўся мастак, ён заўжды малюе аўтапартрэт — аднак амаль літаральнае супадзенне пэўных жыццёвых рэалій Гогаля і фрагментаў прыдуманага жыцця ягонага героя вельмі ўражвае. Амаль люстэркавы адбітак.

Дзеля таго, каб стварыць атмасферу, якая пасуе герою Гогаля, творчая група выязджала ў Пецярбург. Час ад часу на экране з’яўляюцца то помнік Гогалю, то Дварцовы пляц. На маю думку, вялікай патрэбы ў гэтым не было. Імперскую сталіцу можна было б здымаць і ў Мінску, на праспекце Скарыны, на плошчы Перамогі, на плошчы Незалежнасці. Наш горад у пасляваенны час адбудоўваўся па канонах “сталінскага ампіру”, па Пецярбурзе. Мінск у ролі Пецярбурга — гэта цалкам натуральна: акрамя таго, гэта падкрэслівала б пазачасавы змест і сэнс твораў расійскага класіка.

Самыя цікавыя кадры — гэта аповед Віктара Манаева пра сваё жыццё і працу. Яны, дарэчы, не вельмі стасуюцца з усім астатнім у гэтым фільме, з Гогалем і “Шынялём”. Гэты дысананс я схільны лічыць пазітыўнай якасцю твора Надзеі Гаркуновай. Было б занадта проста, але ненатуральна, калі б атрымалася, што артыст усё жыццё ішоў менавіта да гэтай ролі, што яму ад нараджэння было наканавана аднойчы адчуць на плячах цяжар “Шыняля”. Нават пры акрэсленай мэце ў мастацтве не атрымліваецца шлях наўпрост. Адно зразумела з аповеда Віктара Манаева: гэтымі псіхалагічнымі і духоўнымі якасцямі трэба валодаць, каб адчуць як сваё драму “маленькага чалавека” ў вялікім свеце.

Фільм выйшаў у свет напрыканцы мінулага года, і таму нейкім чынам прывязаны да містычнай лічбы “1999”. Да лічбы, што правакуе падводзіць рахункі і вызначаць “самае-самае”, што было ці мелася ў адыходзячым стагоддзі. Не ведаю, які чалавечы тып сімвалізаваў XIX стагоддзе, але сапраўдны герой стагоддзя дваццатага — “маленькі чалавек”. Той, якога прадбачылі Гогаль і Дастаеўскі, якога дакладна апісаў у “Тутэйшых” Купала. Віктар Манаеў — шчаслівы артыст. Яму давялося сыграць галоўнага героя нашага часу. А мо і тысячагоддзя.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

**P.S.**
У фільме не прагучала ніводнага слова па-беларуску. На жаль, нават для культурнай эліты беларуская мова часта не побытавая, але толькі “рабочая”.

ПАМЯЦЬ

# Вышыня Міхася Расолькі

Гэтага чалавека ў шыракаполым капелюшы ведалі ў Мінску многія. У тым ліку — кампазітары, акцёры, мастакі, скульптары. Пісьменнікі — таксама. Ён не з’яўляўся сябрам пісьменніцкага саюза, не спрабаваў сябе ў літаратуры, аднак стан апошняй, у прыватнасці выданне і прапаганда беларускай кнігі, яго клапаціў не менш, а, можа, нават і больш некаторых пісьменнікаў.

Міхась Расолька быў журналістам: напачатку — на радыёстанцыі “Беларуская маладзёжная”, дзе ягоны з прыемнай картавінкай голас у эфіры нельга было зблытаць з нічыім іншым, потым — на пасадзе галоўнага рэдактара мінскай гарадской газеты “Добры вечар”. Перыядычнае выданне, якое воляй лёсу ўзначаліў Міхась на самай мяжы 80-90-х гадоў, з першага нумара заявіла пра сябе як дэмакратычнае і незалежнае, хоць фармальным заснавальнікам яго і лічыўся гарсавет, з маўклівай згоды якога, між іншым, сталічныя “вертыкальшчыкі” і пахавалі “Добры вечар”.

Пахаванне, праўда, адбывалася ўжо без удзелу Міхася Расолькі: на той час ён пакінуў рэдакцыю і заняўся прадпрымальніцкай дзейнасцю. Калі нехта лічыць, што такім чынам журналіст нажыў вялікае багацце, то памыляецца. Ды і не для “купі-прадай” атрымліваў ён ліцэнзію прадпрымальніка. Былы рэдактар-газетчык вырашыў перакваліфікавацца ў рэдактара-выдаўца. І Міхась стаў ім. Прытым не пагнаўся за выданнем “касавай” літаратуры, якую нярэдка і словам гэтым сорамна называць, настолькі сумніўны ў яе характар, а прысягнуў на вернасць беларускай кнізе.

Наколькі я ведаю, планы М. Расолькі-выдаўца прасціраліся далёка. Мы неаднойчы абмяркоўвалі іх разам, да хрыпаты спрачаліся, бо мне здавалася, што планка, якую ставіць перад сабой Міхась, даволі высокая і наўрад ці яму пад сілу. Аднак упарты характар майго былога галоўнага рэдактара, калегі і сябра не дазваляў знізіць яе нават на міліметр. Такі быў Міхась: калі за нешта брацца, то рабіць па максімуму.

Памятаю, як працавалі над сцэнарыем літаратурнага вечара-прэзентацыі маёй кнігі “Дуэль” (яна, прынамсі, стала першай у выдавецкай практыцы М. Расолькі). Гэта ён прымусіў мяне пісаць спецыяльна для гэтай імпрэзы палітычныя анекдоты для Юрыя Аўр’янава, песні для Надзеі Мікуліч і ансамбля “Бліскавіца”, эпіграмы на кожнага ўдзельніка; ён паклапаціўся, каб з Дома літаратара была наладжана прамая тэлетрансляцыя; ён арганізаваў банкет для ўсіх прысутных на вечары.

Ды і сама падрыхтоўка кніг да выдання (трох маіх і дзвюх касцюковіцкага ляснічага-прыродазнаўцы Міхася Шаванды) таксама праходзіла ў штодзённых спрэчках: М. Расолька прадумваў кожную дэталь да драбніц і муштраваў усіх, каб было зроблена менавіта так, а не інакш.



І ў жыцці, і ў творчасці ён быў максімалістам. Шкада толькі, што век свой пражыў не па максімуму. Жыццёвы гадзіннік Міхась Анатольевіч Расолька ўласнаручна спыніў на адзнацы 46. 17 лютага яму споўнілася б 50.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае спачуванне пісьменніцы Нэлі ТУЛУПАВАЙ з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці мужа.**

**Калектыў супрацоўнікаў часопіса “Вожык” выказвае глыбокае спачуванне былому загадчыку аддзела літаратуры, члену рэдкалегіі Нэлі Іванаўне ТУЛУПАВАЙ з выпадку вялікага гора — смерці мужа.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае спачуванне празаіку Ніне Васільеўне МАЕЎСКАЙ з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці бацькі.**

